# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 448
## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 1996 г. № 113

1. Унесці ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 1996 г. № 113 «Аб развіцці фірменнага гандлю» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 9, арт. 224; Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 1, арт.13; № 6, арт.216) змяненні і дапаўненні, выклаўшы яго тэкст у наступнай рэдакцыі:

«У мэтах насычэння рынку рэспублікі таварамі народнага спажывання, паляпшэння гандлёвага абслугоўвання насельніцтва, пашырэння рынкаў збыту прадукцыі айчыннай вытворчасці *пастанаўляю:*

1. Прызнаць неабходным далейшае развіццё і ўдасканаленне фірменнага гандлю ў Рэспубліцы Беларусь, удзяліўшы асаблівую ўвагу стварэнню сеткі ўзорных фірменных гандлёвых прадпрыемстваў (магазінаў, гандлёвых цэнтраў, дамоў гандлю), якія аказваюць увесь комплекс сучасных гандлёвых паслуг.

2. Устанавіць, што:

2.1. асноўнымі задачамі фірменнага гандлю з'яўляюцца:

забеспячэнне высокага ўзроўню гандлёвага абслугоўвання насельніцтва, рэалізацыя ў шырокім асартыменце прадукцыі, у тым ліку камплектуючых вырабаў, выраблены заснавальнікамі фірменных гандлёвых прадпрыемстваў, а таксама спадарожных тавараў, укараненне прагрэсіўных формаў і метадаў арганізацыі гандлю;

вывучэнне пакупніцкага попыту, падрыхтоўка прапаноў айчынным таваравытворцам па абнаўленню асартыменту выпускаемых імі тавараў, паляпшэнню якасці і павышэнню іх канкурэнтаздольнасці;

арганізацыя перадпродажнай падрыхтоўкі тавараў, дастаўкі іх пакупнікам, зборкі і ўстаноўкі, гарантыйнага і паслягарантыйнага абслугоўвання, аказанне іншых паслуг, звязаных з гандлёвым абслугоўваннем насельніцтва; 2.2.развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы фірменнага гандлю ажыццяўляецца шляхам:

будаўніцтва новых і пашырэння дзеючых фірменных гандлёвых прадпрыемстваў за кошт капітальных укладанняў заснавальнікаў гэтых прадпрыемстваў, інвестыцый і банкаўскіх крэдытаў, што прыцягваюцца імі;

адчужэння, здачы ў арэнду і субарэнду, перадачы ў бязвыплатнае карыстанне будынкаў (памяшканняў), якія не выкарыстоўваюцца або неэфектыўна выкарыстоўваюцца, перапрафілявання аб'ектаў, не завершаных будаўніцтвам, а таксама якія падлягаюць кансервацыі або закансерваваных;

адкрыцця аддзелаў (секцый) фірменнага гандлю ў буйных рознічных гандлёвых прадпрыемствах.

3. дазволіць фірменным гандлёвым прадпрыемствам (іх заснавальнікам) накіроўваць у перыяд з 1 верасня 1998 г. па 31 снежня 2000 г. па-за ўстаноўленай чарговасцю плацяжоў, за выключэннем адлічэнняў у бюджэт, да 50 працэнтаў грашовых сродкаў, якія атрымліваюцца гэтымі гандлёвымі прадпрыемствамі ад рэалізацыі прадукцыі іх заснавальнікаў (акрамя піва, алкагольных і тытунёвых вырабаў), у аднолькавых частках на:

пагашэнне запазычанасці па выплаце заработнай платы, набыццё сыравіны, матэрыялаў і камплектуючых вырабаў, што выкарыстоўваюцца для патрэб уласнай вытворчасці;

умацаванне і развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы фірменнага гандлю.

4. Міністэрствам, іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аб'яднанням, падначаленым ураду, сумесна з мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі:

4.1. у двухмесячны тэрмін зацвердзіць планы развіцця фірменнага гандлю да 2000 года, распрацаваўшы папярэдне тэрытарыяльныя і галіновыя схемы рацыянальнага размяшчэння фірменных гандлёвых прадпрыемстваў па абласцях, раёнах, гарадах і пасёлках гарадскога тыпу рэспублікі з улікам колькасці іх насельніцтва і руху пакупніцкіх патокаў, існуючай сеткі прадпрыемстваў рознічнага гандлю, забеспячэння пакупнікоў па месцы жыхарства неабходным асартыментам тавараў.

Прадугледзець у гэтых планах адкрыццё да 1 ліпеня 1999 г. у абласных цэнтрах і гарадах абласнога падпарадкавання па аднаму буйному фірменнаму гандлёваму прадпрыемству, у г.Мінску — не менш як 5 фірменных дамоў гандлю, заснавальнікамі якіх ва ўстаноўленым парадку могуць выступаць зацікаўленыя міністэрствы, аб'яднанні, падпарадкаваныя ўраду, асобныя суб'екты гаспадарання (у тым ліку аб'яднаныя па галіновай прымеце);

4.2. праводзіць мэтанакіраваную работу па пашырэнню сеткі фірменных гандлёвых прадпрыемстваў па продажы беларускіх тавараў за межамі рэспублікі, арганізацыі сэрвіснага абслугоўвання тэхнічна складаных тавараў айчыннай вытворчасці, аказанню комплексу іншых гандлёвых паслуг, актывізацыі рэкламнай дзейнасці.

5. Міністэрству гандлю сумесна з іншымі зацікаўленымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, аб'яднаннямі, падпарадкаванымі Ураду, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі прывесці да 1 лістапада 1998 г. Тыпавое палажэнне аб фірменным магазіне прадпрыемства ( аб'яднання) у адпаведнасць з патрабаваннямі гэтага Указа, вызначыўшы ў ім парадак прысваення аб'екту рознічнага гандлю статуса «фірменны магазін» і прадугледзеўшы, у прыватнасці, што:

фірменны магазін, як правіла, ствараецца і дзейнічае ў якасці юрыдычнай асобы, ажыццяўляе раздзельны ад іншых відаў дзейнасці яго заснавальнікаў улік фінансава-гаспадарчых аперацый, звязаных з дзейнасцю фірменнага магазіна;

тavailable спецыялізацыя фірменнага магазіна вызначаецца яго заснавальнікамі, узгадняецца з выканаўчым камітэтам па месцы знаходжання магазіна і ўказваецца ў ліцэнзіі на права рознічнага гандлю;

таварныя рэсурсы выдзяляюцца фірменным гандлёвым прадпрыемствам аблвыканкамамі, Мінскім гарвыканкамам зыходзячы з іх агульных аб'ёмаў, што складваюцца, і з улікам неабходнасці раўнамернага забеспячэння таварамі ў шырокім асартыменце ўсіх рэгіёнаў абласцей і г.Мінска, стварэння насельніцтву аднолькавых умоў для набыцця гэтых тавараў у магазінах па месцы жыхарства. Пры гэтым павелічэнне таварных рэсурсаў фірменных гандлёвых прадпрыемстваў ажыццяўляецца за кошт выпуску заснавальнікамі гэтых прадпрыемстваў тавараў звыш аб'ёмаў, прадугледжаных да пастаўкі ў гандлёвую сетку па заказах Міністэрства гандлю, Белкаапсаюза, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама;

фірменны магазін не мае права ажыццяўляць аптовы гандаль, за выключэннем дробнааптовых аперацый па продажу прадукцыі яго заснавальнікаў для выкарыстання (спажывання) на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

фірменны магазін камплектуецца спецыялістамі, якія маюць адпаведную прафесійную падрыхтоўку.

6. Міністэрству статыстыкі і аналізу, Міністэрству гандлю сумесна з іншымі зацікаўленымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, аб'яднаннямі, падпарадкаванымі Ураду, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі да 1 студзеня 1999 г. правесці адначасовае абследаванне фірменных гандлёвых прадпрыемстваў і атэстацыю іх на адпаведнасць патрабаванням Тыпавога палажэння аб фірменным магазіне прадпрыемства (аб'яднання), устанавіўшы колькасць гандлёвых прадпрыемстваў, што адпавядаюць статусу «фірменны магазін», удасканаліць сістэму паказчыкаў статыстычнай справаздачнасці аб развіцці фірменнага гандлю.

7. Міністэрству гандлю кожны год, пачынаючы з 1 студзеня 1999 г., забяспечваць па заяўках міністэрстваў, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, аб'яднанняў, падпарадкаваных Ураду, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў павышэнне кваліфікацыі службовых асоб, якія ажыццяўляюць арганізацыю фірменнага гандлю, а таксама кіраўнікоў і гандлёвага персаналу фірменных магазінаў.

8. Міністэрству прамысловасці сумесна з Мінскім гарвыканкамам да 1 студзеня 1999 г. адкрыць у г.Мінску спецыялізаваны фірменны магазін па продажу тавараў народнага спажывання, што выпускаюцца прадпрыемствамі прамысловага комплексу рэспублікі.

9. Міністэрству прадпрымальніцтва і інвестыцый узмацніць кантроль за выкананнем антыманапольнага заканадаўства суб'ектамі гаспадарання, якія з'яўляюцца манапалістамі на таварным рынку і ажыццяўляюць фірменны гандаль.

10. Мясцовым выканаўчым і распарадчым органам:

ажыццяўляць ва ўстаноўленым парадку адвядзенне зямельных участкаў міністэрствам, аб'яднанням, падпарадкаваным Ураду, і суб'ектам гаспадарання для будаўніцтва новых і пашырэння дзеючых фірменных гандлёвых прадпрыемстваў;

забяспечыць удзел, у тым ліку пры раздзяржаўленні і прыватызацыі, у першачарговым парадку заснавальнікаў фірменных гандлёвых прадпрыемстваў у праводзімых ва ўстаноўленым парадку конкурсах, аўкцыёнах па адчужэнню будынкаў, збудаванняў, а таксама не завершаных будаўніцтвам аб'ектаў камунальнай уласнасці і іх прыярытэтны продаж заснавальнікам названых прадпрыемстваў з паніжэннем пры неабходнасці пачатковай цаны гэтых будынкаў, збудаванняў і аб'ектаў.

11.Кантроль за выкананнем гэтага Указа ўскласці на Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь».

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**
*15 верасня 1998 г., г.Мінск.*

# НА ДУМКУ АНАТОЛЯ МАЛАФЕЕВА, НОВЫ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР РАСІІ ЗМОЖА СКАРЭКЦІРАВАЦЬ ПАЛІТЫЧНЫ КУРС ПАПЯРЭДНЯГА ЎРАДА

Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Анатоль Малафееў станоўча ацаніў прызначэнне Яўгена Прымакова прэм'ер-міністрам урада Расіі. Пра гэта ён заявіў 15 верасня на сустрэчы з журналістамі.

Спікер ахарактарызаваў Прымакова, як «тонкага палітыка», у якога няма, як выказаўся Малафееў, «кан'юнктурных ваганняў».

Новы расійскі прэм'ер, на думку Малафеева, здольны сфарміраваць моцны ўрад, увёўшы ў яго «патрэбных людзей», прычым людзей з рознымі палітычнымі поглядамі.

Спікер ніжняй палаты лічыць, што Прымакоў здольны стабілізаваць палітычную сітуацыю ў Расіі. Яшчэ адной станоўчай якасцю расійскага прэм'ера, на думку Малафеева, з'яўляецца яго палітычная непрадузятасць. Прымакоў, лічыць ён, будзе сябе паводзіць «натуральна і нязмушана» і «не будзе ні перад кім паддобрывацца».

Недахопам кіраўніка расійскага ўрада А.Малафееў назваў адсутнасць эканамічнага вопыту. Аднак «гібкасць розуму, мудрасць, веды і вопыт», лічыць спікер, дадуць яму магчымасць прывесці ва ўрад людзей, якія не будуць весці «палітычна авантурныя карагоды», а зоймуцца «практычнай справай». Старшыня Палаты прадстаўнікоў выказаў упэўненасць, што Прымакоў зможа скарэкціраваць палітычны курс, які праводзіў урад Віктара Чарнамырдзіна. «Паўтараць тое, што ён рабіў апошнія 5—7 гадоў, Расія ўжо не можа», — заявіў Анатоль Малафееў.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

# БАРЫС БЕРАЗОЎСКІ АБ РЭФАРМІРАВАННІ СНД

**15-16 верасня ў Мінску адбылося пленарнае пасяджэнне спецыяльнага міждзяржаўнага форуму па праблемах удасканалення дзейнасці і рэфарміравання Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі выказаў на ім сваё бачанне прычын неэфектыўнасці і шляхоў рэфарміравання Садружнасці і яе органаў.**

Ускосна ён прызнаў, што не надта эфектыўным аказаўся і сам форум па рэфарміраванню СНД, паколькі пасля веранёўскіх пасяджэнняў не быў вынесены на Саветы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў ні адзін праект рашэння як закончаны. Толькі два праекты былі ўзгоднены прадстаўнікамі краін з пэўнымі папраўкамі. Беразоўскі зазначыў, што на форуме была зроблена вялікая работа, але прагрэсу перашкаджалі «розныя падыходы». На ягоную думку, яны былі розныя, бо першапачаткова не былі вызначаны ні зыходныя ўмовы рэфарміравання СНД, якія павінны быць ясныя для ўсіх, ні канчатковая мэта.

— З самага пачатку работы форуму была дапушчана чыста метадалагічная памылка,— зазначыў Барыс Абрамавіч.— Усімі прызнаецца, што Садружнасць Незалежных Дзяржаў вычарпала тыя формы работы, якія былі да гэтага, і падлягае рэфарміраванню. Натуральна, што для таго, каб ажыццяўляць гэтае рэфарміраванне, трэба было б зразумець, што значыць «вычарпаліся старыя формы», чаму яны вычарпаліся і ў чым прычыны таго, што сёння СНД такая неэфектыўная. Мы ж, не адказваючы на гэтыя пытанні, прыступілі да рэфарміравання органаў СНД. Натуральна, што тут кожны мае ўласныя думкі і, не фармулюючы іх канкрэтна, пачалі прапаноўваць свае мадэлі...

Беразоўскі прызнаў, аднак, і сваю віну ў гэтай метадалагічнай памылцы. Але ягонае выступленне паказвае, што верагоднасць знайсці агульныя падыходы для ўсіх краін СНД ён лічыць вельмі малой.

— На жаль, я прыйшоў да высновы, што не можа быць сфармулявана адзіная канчатковая мэта рэфарміравання СНД. І гэта прынцыповае пытанне. Сёння з усёй відавочнасцю можна заявіць, што ў СНД узніклі групы дзяржаў з блізкімі інтарэсамі, і гэтыя групы часта паміж сабою маюць процілеглыя прыярытэты. Я амаль напэўна магу сёння сказаць па любому пытанню, якая дзяржава будзе «за», а якая «супраць». Проста ў іх па-рознаму расстаўлены прыярытэты. У чым жа прычына ўсяго, што адбываецца? — задаў пытанне Барыс Беразоўскі. І сам адказаў: — Прычына гэтага — калапс велізарнай імперыі, якая ў пачатку стагоддзя называлася Расійскай імперыяй, а ў XX стагоддзі — СССР. Зразумела, што за 10 гадоў з наступствамі гэтага калапсу не справіцца. І гэты калапс зачапіў не толькі краіны Садружнасці, але і ўсяго свету. Увесь свет скаланаецца ад таго, што тут адбылося... Ідзе найскладанейшае змяненне суадносінаў, якія складваліся тысячагоддзе...

На думку Беразоўскага, Садружнасць сёння становіцца перш за ўсё механізмам збліжэння інтарэсаў розных краін, і яна сама павінна дынамічна мяняцца па меры павелічэння іх падабенстваў або асаблівасцяў. І гэтыя асаблівасці інтарэсаў і прыярытэтаў Барыс Беразоўскі прапануе не пераадольваць, але прывесці новыя формы Садружнасці ў адпаведнасць з іх зместам. Ён лічыць неабходным зрабіць дакладны аналіз стану адносінаў паміж дзяржавамі ўнутры Садружнасці, дакладнае выдзяленне груп дзяржаў, што маюць сходныя прыярытэты. У якасці канкрэтных новаўвядзенняў ён прапанаваў адмовіцца ад прынцыпу кансенсусу пры прыняцці рашэнняў і дазволіць стварэнне групам дзяржаў СНД, афармленых «па інтарэсах», тых альбо іншых структур для дасягнення гэтых інтарэсаў — пры ўмове адсутнасці пярэчанняў з боку іншых краін Садружнасці.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 449
## Аб унясенні змяненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 6 жніўня 1996 г. № 285

У сувязі з уступленнем у сілу Мытнага кодэкса Рэспублікі Беларусь *пастанаўляю:*

1. Унесці ў Палажэнне аб магазіне бяспошліннага гандлю для замежных дыпламатычных прадстаўніцтваў, прыраўнаваных да іх прадстаўніцтваў міжнародных арганізацый, консульскіх устаноў, зацверджанае Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 6 жніўня 1996 г. № 285, наступныя змяненні:

1.1. у пункце 3 словы: «пад мытным наглядам» замяніць словамі: «пад мытным кантролем»;

1.2. у абзацы першым пункта 4 словы: «Заснавальнікам магазіна» замяніць словамі: «Заснавальнікам (уладальнікам) магазіна»;

1.3. пункты 26—30 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«26. Ліквідацыя магазіна праводзіцца пасля сканчэння тэрміну дзеяння ліцэнзіі, пры анляванні або адкліканні мытнымі органамі ліцэнзіі на яго заснаванне або па ініцыятыве ўладальніка магазіна.

27. З даты прыняцця рашэння аб ліквідацыі магазіна тавары, што знаходзяцца ў гандлёвых залах і падсобных памяшканнях, перадаюцца на склад магазіна ў прысутнасці службовай асобы мытнага органа. Пры гэтым склад магазіна становіцца складам часовага захоўвання.

28. Уладальнік магазіна абавязаны ў сямідзённы тэрмін з дня накіравання паведамлення аб ліквідацыі магазіна прадставіць у мытны орган поўную справаздачу аб таварах, што знаходзяцца на складзе, а таксама звесткі аб таварах, рэалізаваных з моманту заснавання магазіна.

Пры ліквідацыі магазіна па ініцыятыве ўладальніка ён абавязаны паведаміць аб гэтым мытнаму органу і прадставіць поўную справаздачу аб таварах, што знаходзяцца на складзе. Мытны орган не пазней чым у сямідзённы тэрмін з дня прадстаўлення ўладальнікам магазіна справаздачы, прадугледжанай пунктам 28 гэтага Палажэння, праводзіць інвентарызацыю тавараў, што знаходзяцца ў магазіне, які ліквідуецца.

30. Тавары, якія знаходзяцца ў магазіне, што ліквідуецца, падлягаюць паўторнаму мытнаму афармленню, а яго ўладальнік выплачвае за ўвесь перыяд знаходжання тавараў у гэтым магазіне мытныя зборы за захоўванне тавараў у памерах, устаноўленых для складоў часовага захоўвання, заснаваных мытнымі органамі Рэспублікі Беларусь:

пры ануляванні ліцэнзіі — з даты паступлення тавараў у магазін;

пры адкліканні ліцэнзіі — з даты прыняцця рашэння аб адкліканні;

у іншых выпадках — з даты прыняцця рашэння аб ліквідацыіі»;

1.4. пункт 31 выключыць.

Пункты 32—35 лічыць адпаведна пунктамі 31—34;

1.5. пункт 31 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«31. Усе расходы, звязаныя з ліквідацыяй магазіна, нясе яго заснавальнік (уладальнік)»;

1.6. у пункце 32 словы: «на стварэнне магазіна» замяніць словамі: «на заснаванне магазіна».

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**
*15 верасня 1998 г. г.Мінск.*

# ВІНШАВАННІ

*Шчыра віншую дарагую* ***Вольгу РОПАТ*** *з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, поспехаў, штодзённага шчасця.*

**Ларыса Дрэвіла.**

*Віншуем з днём нараджэння* ***Анатоля Мікалаевіча ВАСЬКО****. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту і кахання.*

**Віктар, Наталля,** *в. Швабы.*

*Віншуем* ***Ігара Іванавіча ДАМАШЭВІЧА*** *з в/ч 3214 г. Мінска з днём нараджэння.*

«От всей души, без многословья, желаем счастья и здоровья, таким же милым, добрым быть, на радость нам 100 лет прожить».

**Бацькі, сёстры, браты, бабуля і дзядуля з в. Лагаза.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння* ***Тамару Пятроўну САЛАНІНКА****. Жадаем здароўя, шчасця.*

**Сяброўкі па працы,** *г. Глыбокае.*

# «КАПІТАЛІЗМ РАЗВАЛЬВАЕЦЦА, ГАВОРЫЦЬ СОРАС»

«Фінансіст Джордж Сорас папярэдзіў, што глабальная капіталістычная сістэма знаходзіцца ў небяспецы выбуху, які наступіць з-за панічнага адтоку капіталу развіваемых рынкаў Лацінскай Амерыкі па пятах за расійскім крызісам. Выступаючы перад Кангрэсам ЗША, Сорас заявіў: «Глабальная капіталістычная сістэма, якая стварыла наша цудоўнае працвітанне, распадаецца на кавалкі».

Ён сказаў, што «ўсеагульная паніка» пануе на лацінаамерыканскіх рынках і што фінансавы калапс у Бразіліі можа распаўсюдзіцца на Аргенціну.

Калі Сорас заклікаў да дэвальвацыі рубля ў жніўні, ён ініцыіраваў фінансавы і палітычны крызіс у Расіі, які выліўся ў крах рубля і, паводле ацэнак, каштаваў інвестыцыйным фондам Сораса каля 2 млрд. долараў.

Сорас перасцярог амерыканскіх палітыкаў ад самазаспакоенасці, выкліканай толькі тым, што большасць праблем узнікаюць за межамі ЗША».

**«Гардыян» (Вялікабрытанія).**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.45 | 19.23 | 12.38 |
| Віцебск – | 6.34 | 19.14 | 12.40 |
| Магілёў – | 6.34 | 19.12 | 12.38 |
| Гомель – | 6.34 | 19.06 | 12.32 |
| Гродна – | 7.02 | 19.35 | 12.33 |
| Брэст – | 7.02 | 19.38 | 12.36 |

### МЕСЯЦ

**Апошняя квадра 13 верасня
З 2.04 — 27-ыя месяцавыя суткі.
Месяц — у сузор'і Льва**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Афанасія, Майсея, Данаты, Фёдара, Юльяна К. Юстыны, Роберта, Францішка**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, на значнай частцы тэрыторыі дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 5—10 м/сек, парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 12—14, Мінску і Гомелі — 13—15, Гродне — 14—16, Брэсце — 15—17 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, месцамі па рэспубліцы, а ўначы 19-га — на значнай частцы тэрыторыі дажджы. Вецер паўднёва-заходні і заходні, 5—10 м/сек, парывы да 14 м/сек. Тэмпература ўначы — 6—11, удзень 18-га — 11—16, 19-га — 13—18 градусаў вышэй нуля.

ЗВЯЗДА
17 верасня 1998 г.



# КУПА

**Лічыцца, што першыя адпачываючыя пачалі з'яўляцца тут яшчэ «за Польшчай». Факт застаецца фактам: у 30-я гады каля вёскі Купа было пабудавана некалькі лецішчаў заможных прадпрымальнікаў, рэстаранчык і невялікі яхт-клуб. Аднак, зважаючы на карэктывы часу, сапраўдны «працяг» атрымаўся толькі пасля вайны. У канцы 50-х, ужо ў БССР, прымаецца рашэнне аб добраўпарадкаванні мясцовай тэрыторыі і стварэнні зоны адпачынку. У 1963-м тут адкрываецца першы санаторый. У наступным годзе вёска Купа атрымлівае новую, крыху незвычайную назву — «курортны пасёлак Нарач».**

## «УРБАНІЗАЦЫЯ»

Курортны пасёлак Нарач (у лексіконе мясцовых жыхароў — па-ранейшаму Купа) нагадвае невялікі ўтульны гарадок не толькі вонкава. Паводле даных статыстыкі, зараз на тэрыторыі пасёлка стала пражываюць каля трох з паловай тысяч чалавек. Практычна ўсе яны, калі не ўлічваць дзяцей і пенсіянераў, занятыя на абслугоўванні так званых «аздараўленчых аб'ектаў». У навакольныя калгасы (адзначым, што ўласнай гаспадаркі тут няма ўвогуле) ідуць працаваць адзінкі. Прычыны таму простыя. «Там», як амаль і паўсюль, маленькія заробкі і затрымкі з іх выплатамі. «Тут» — параўнальная стабільнасць і зарплата ў 3-4 мільёны рублёў. Заўважым: у сярэднім.

Зрэшты, урбанізацыя не аказалася татальнай. Справа нават не ў тым, што тутэйшыя здраўніцы па старой завядзёнцы з'яўляюцца шэфамі (ад камянёў вясной да бульбы восенню) бліжэйшых калгасаў. Галоўнае ўсё ж іншае — некалькі сотак пад прыватныя агароды. Нягледзячы на тое, што асабліва разлічваць на дапамогу ў іх апрацоўцы не выпадае (зноў-такі: няма «сваёй» гаспадаркі, адпаведна, няма і тэхнікі), тым не менш, гэтыя кавалкі зямлі маюць тут як бы падвойнае значэнне. Апроч усяго, для некаторых яны — надзейная крыніца дадатковага даходу.

## САКРЭТЫ ПОСПЕХУ

Нарачанскі рынак пачынае працаваць з сёмай гадзіны раніцы, заканчвае — а сёмай вечара. За апошні час на рынку з'явіліся адразу два новыя павільёны, і сёння тут па суседству можна знайсці як традыцыйны турэцка-кітайскі «ширспажыў», так і лішкі ўраджаю з сялянскіх падворкаў. Дарэчы, прылаўкі з сельгаспрадукцыяй (а калі больш дакладна — цэны) маюць тут адну вельмі цікавую асаблівасць: кілаграм бульбы, агуркоў, яблыкаў, ігруш, сліў і г. д. каштуе аднолькава — 20 тысяч рублёў. Чаму менавіта так, высветлілася даволі хутка. Бліжэй да верасня пачынаюць з'язджаць дзеці, як вынік, цана на садавіну ў гэты час падае, тады як попыт на агародніну аказваецца больш працяглым. Але нават з улікам «кан'юнктурных акалічнасцяў» даходы гэтых катэгорый гандляроў наўрад ці могуць падацца занадта ўжо вялікімі — пры самых лепшых варунках, недзе тысяч 100—150 у дзень.

У больш выгаднай сітуацыі — гандляры рыбай. Тут па-за канкурэнцыяй знаходзіцца вэнджаны вугор. Трэба сказаць адразу, што для пакупнікоў гэта задавальненне зусім нятаннае — прыкладна 600 тысяч рублёў за кілаграм. Ёсць тут, між тым, пэўная праблема і для гандляроў.

Яна ў тым, што прамысловая лоўля фармальна дазваляецца толькі рабочым, астатнія такога права як быццам не маюць. Але парадокс, што нейкая адказнасць магчыма хіба што у двух выпадках — або па патрабаванню санстанцыі, або калі гандляр мае статус прыватнага прадпрымальніка. Вядома, што атрымаць такі статус жадаючых няма. Што да санстанцыі, то пракантраляваць літаральна кожнага яна проста не ў стане.

## БЕЗ КРЫЎДАЎ

Не раз даводзілася чуць, што «Нарач — гэта не тое месца, дзе «круцяцца» вялікія грошы». Сустракаюцца, вядома, асобныя адпачываючыя, здольныя за некалькі дзён пакінуць у тутэйшых барах па паўтысячы «баксаў», але такія хутчэй выключэнне. Правілам з'яўляецца тое, што зона адпачынку перш-наперш разлічана на людзей з «сярэдняй таўшчынёй кашалька», той самы « мідл-клас». Бясспрэчна, у тым ліку па гэтай прычыне мясцовую «забаўляльную індустрыю» суперсучаснай назваць цяжка, затое цішыня, чысціня і непаўторныя нарачанскія краявіды гарантаваны кожнаму. Другі прывабны момант — цэны.

Сярэдні кошт пуцёўкі ў санаторый ці дом адпачынку вагаецца ад 5 да 8 мільёнаў рублёў. Садавіна, агародніна, рыба, катамараны і традыцыйны куфаль піва — яшчэ паўтара—два мільёны. І хаця ў цэлым сума атрымліваецца даволі адчувальная, у той жа час (асабліва калі ўлічыць курс долара) варта пагадзіцца: танней нідзе не будзе. Тым больш што існуе, як кажуць і альтэрнатыўны варыянт — адпачынак «дзікуном».

Тут таксама ўсё адносна. Так, у курортным пасёлку можна зняць цэлую кватэру і выкладваць за яе па мільёну ў суткі. Можна абмежавацца і пакойчыкам, прычым таго ж мільёна «хопіць» на цэлы тыдзень. Плюс дватры мільёны, якія пойдуць на харчаванне...

Яшчэ адна катэгорыя адпачываючых — так званыя «выхадныя» турысты. Звычайна гэта жыхары сталіцы, якія прыязджаюць на ўласным аўтамабілі з простай мэтай правесці чарговы уік-энд. У прынцыпе падобнае не забараняецца, дастаткова толькі заплаціць сімвалічны (некалькі дзесяткаў тысяч) курортны збор і спыніцца ў адным са спецыяльна адведзеных месцаў. Аднак і першае, і другое адносіцца да выпадкаў амаль унікальных, што дае падставу нарачанскім камунальнікам, міліцыянерам і інспектарам рыбаахоўы сумна жартаваць наконт «сапраўднага асаднага становішча».

Не ў захапленні і іншыя мясцовыя жыхары, якія з падставамі або без, але прыпісваюць якраз «выхадным» турыстам «харчразвёрсткі» на ўласных агародах. Дзеля справядлівасці, здараецца такое нячаста і пераважна па дробязях. Прынамсі, абыходзіцца без вялікіх крыўдаў.

**Сяргей ГРЫБ.**

*СІТУАЦЫЯ*

# БЯДА НА СКРЫЖАВАННІ

**Гэтая бяда (а на мове афіцыйных дакументаў — дарожна-транспартнае здарэнне) адбылася амаль год таму ў адным з райцэнтраў Гродзеншчыны. На сённяшні дзень яна «абрасла» саліднай перапіскай, да яе падключаны розныя абласныя і рэспубліканскія інстанцыі, рэдакцыі газет.**

Аўтару гэтых радкоў вядомы і канкрэтны «адрас» аварыі, і прозвішчы вадзіцеляў, якія не здолелі беспраблемна раз'ехацца на скрыжаванні. Аднак у дадзенай сітуацыі, на маю думку, зусім не абавязкова, каб гэтую канкрэтыку ведала ўся рэспубліка. Бо навошта, як кажуць, сыпаць соль на рану чалавеку, ведаючы, як няшмат шанцаў, што нешта ўсё ж памяняецца ў спрыяльным для яго накірунку. Нягледзячы на тое, што кропка ў гэтай гісторыі быццам бы ўжо пастаўлена і ёсць судовы вердыкт.

Дзякуй Богу, што ў гэтай аварыі абышлося без чалавечых ахвяр. Аднак аўтамабілі былі «траўміраваны» вельмі сур'ёзна. А рамонт, асабліва іншамаркі, сёння выліваецца ў такую капейку, перад якой наш спажывецкі мінімум выглядае сапраўдным жабраком.

Вінаватым у ДАІ прызналі вадзіцеля, які рухаўся па другараднай дарозе. Паводле Правілаў дарожнага руху, вадзіцель транспартнага сродку, які рухаецца па другараднай дарозе, павінен уступіць дарогу транспартнаму сродку, які набліжаецца да яго па галоўнай дарозе, незалежна ад напрамку іх далейшага руху. Гэтае патрабаванне і было праігнаравана, што, дарэчы, зусім не унікальны выпадак. Паводле статыстыкі, якая вядзецца ў абласной дзяржаўтаінспекцыі, менавіта на скрыжаваннях сёлета зафіксавана найбольш парушэнняў.

У дадзеным выпадку, па заключэнню эксперта, вадзіцель «Фольксвагена», рухаючыся па галоўнай дарозе, не меў тэхнічнай магчымасці прадухіліць сутыкненне з «Волгай», якая не спынілася перад праездам скрыжавання. Між іншым, вадзіцель апошняй спачатку таксама не адмаўляў сваёй віны і не ставіў пад сумненне высновы, зробленыя «даішнікамі» па гарачых слядах дарожна-транспартнага здарэння. Ён уласнаручна засведчыў, што няправільна ацаніў дарожную сітуацыю з улікам скорасці іншай машыны, і таму яму не хапіла тармазнога шляху, каб пазбегнуць аварыі. Як бачым, і намёку няма на тое, што дойдзе аж да суда. Аднак неўзабаве замест вышэйпамянёнага тлумачэння ў ход ідзе іншая версія. Маўляў, пасля аварыі ён быў у шокавым стане, практычна не ўдзельнічаў у далейшых падзеях па высвятленню абставінаў ДТЗ і падпісваў усё, што прапаноўваў супрацоўнік дзяржаўтаінспекцыі. А цяпер відавочна, што яго віны няма, і таму раскашэльвацца на рамонт чужой машыны ён не збіраецца. Далей чалавек піша скаргі ў розныя інстанцыі, у Гродна і Мінск, але праўды там, па яго разуменню, не знаходзіць. Адусюль яму адказваюць, што не існуе ніякіх падстаў для перагляду заключэння, зробленага адразу пасля дарожна-транспартнага здарэння. Аднак ніякімі аргументамі аўтара пісьмаў пераканаць немагчыма.

Што ж рабіць у гэтай сітуацыі вадзіцелю «Фольксвагена»? Вядома, ён звяртаецца з іскавай заявай у суд. Там, зразумела, і іншых спраў безліч. Але вось, нарэшце, даходзіць чарга і да гэтай. У выніку суд устанаўлівае, што адказчык парушыў Правілы дарожнага руху, і вызначае грашовую суму, якая павінна быць выплачана істцу.

З таго моманту прайшло ўжо шмат часу. І вось днямі карэспандэнт «Звязды» пацікавіўся, ці выканана судовае рашэнне. Аказваецца, на маёмасць адказчыка быў накладзены арышт. Аднак маёмасць, за кошт якой можна было б хоць часткова кампенсаваць страты істца, адсутнічае. А гэта значыць, што істец, маючы на руках судовы вердыкт, які недвухсэнсоўна абараняе яго законныя інтарэсы, па сутнасці апынуўся ля «разбітага карыта». Яму не толькі не кампенсавалі затраты на рамонт машыны, але і не вярнулі грошы (і немалыя), якія ён заплаціў за экспертызу, паслугі адваката, дзяржпошліну пры звароце ў суд. Атрымліваецца, што даказваючы і ў рэшце рэшт даказаўшы ісціну, чалавек нічога не вярнуў, а яшчэ больш страціў.

І гэта, кажуць у абласной дзяржаўтаінспекцыі, не такая ўжо і рэдкасць. Адзін пацярпелы вадзіцель у канчатковым выніку згадзіўся ў дзесяць разоў зменшыць суму, якая была заяўлена ў судовым іску. Каб увогуле не застацца «з носам». У другім выпадку страты чалавека, звязаныя з рамонтам машыны, павялічыліся разоў у пяць у сувязі з аплатай за экспертызу, паслугі адваката, судовых выдаткаў. І ўсё марна, бо якая карысць ад судовага рашэння, якое не выконваецца?

Якія ж урокі варта засвоіць з падобных канфліктаў нашых вадзіцеляў? Магчыма, у пэўных выпадках і пашанцавала б уладальніку застрахаванага аўтамабіля. Хаця страхоўка — гэта не панацэя ад усіх няшчасцяў на дарозе. Тая ж экспертыза (без папярэдняй аплаты з ёй сёння не атрымаецца) — судовыя разборы могуць зацягнуцца на доўгія месяцы. Да таго ж, зразумела, страхоўка не кожнаму па кішэні.

Такім чынам, рэальна застаецца, відаць, толькі адно: самому не парушаць Правілы дарожнага руху і пры гэтым заўсёды мець на ўвазе, што далёка не ўсе вадзіцелі гэтыя патрабаванні выконваюць. Нават калі вы рухаецеся па галоўнай дарозе, не пашкодзіць лішні раз прытармазіць і азірнуцца навокал. Бо, калі здарыцца бяда, вярнуць свае страты будзе вельмі няпроста.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*КРЫМІНАЛ*

# АДКУЛЬ ЗОЛАТА І ДОЛАРЫ Ў КАБІНЕЦЕ НАЧАЛЬНІКА СЛЕДСТВА?

**З усіх каштоўнасцяў на зямлі, мабыць, самае прыцягальнае — золата. Нават у людзей багатых няшмат залатых вырабаў. А тут у звычайным службовым сейфе — адразу больш за 160 каштоўных пярсцёнкаў, пячатак, ланцужкоў і іншых упрыгажэнняў з золата. А яшчэ — каля 140 тысяч долараў, 40 мільёнаў беларускіх рублёў, зброя. І сейф гэты быў не ў ювелірным магазіне, а ў кабінеце начальніка следчага аддзела Ленінскага РАУС г. Мінска. Дарэчы, не так даўно «Звязда» першай з рэспубліканскіх выданняў паведаміла пра факт затрымання начальніка следства, падпалкоўніка міліцыі і пра вобыск у яго службовым кабінеце. Але паколькі тады падазраваемаму ў злачынстве не было прад'яўлена абвінавачанне, мы не мелі права называць нават яго прозвішча. Толькі паабяцалі чытачам паведаміць пазней пра ход расследавання.**

*Нядаўна мы сустрэліся з начальнікам следчага аддзела Упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Аляксандрам РАКЕВІЧАМ і папрасілі больш падрабязна пракаменціраваць сутнасць гэтай крымінальнай справы.*

— Усё пачалося намнога раней таго часу, калі начальніку следчага аддзела Ленінскага РАУС Мінска падпалкоўніку міліцыі Дзмітрыю Максіменку было прад'яўлена афіцыйнае абвінавачанне, — пачаў Аляксандр Іванавіч. — У свой час да яго звярнулася жанчына, непаўналетняя дачка якой украла туфлі ў магазіне. Ленінскі РАУС якраз займаўся тады расследаваннем гэтай справы. Ведаючы, што справа ў адносінах да дзяўчыны была ўжо спынена ў сувязі са змяненнем заканадаўства, начальнік следства тым не менш не сказаў пра гэта жанчыне. Больш таго, ён паведаміў разгубленай маці, што можна спыніць крымінальную справу і звесці яе да звычайнай адміністрацыйнай адказнасці. Маўляў, трэба заплаціць штраф. Тая і перадала падпалкоўніку 111 долараў ЗША і 500 тысяч беларускіх рублёў, якія ён і прысвоіў. Кампетэнтныя органы праверылі гэты факт. На ўсё было патрачана нямала сіл і часу. Справа ўскладнялася тым, што гэта быў начальнік следчага аддзела, падпалкоўнік міліцыі, чалавек, які займаў не апошнюю ступеньку ва ўладнай лесвіцы.

*— Словам, існавала рэальная небяспека «пракалоцца»? А раптам у час вобыску ў кабінеце наогул нічога б не знайшлі? Тады — скандал?..*

— Скандалу б не было. Перш чым выпісваць ордэр на затрыманне і правядзенне вобыску, кампетэнтныя органы, якія займаліся гэтай справай, ужо мелі пэўныя доказы. З улікам пасады гэтага чалавека, а таксама ступені небяспекі яго процiпраўнай дзейнасці і было прынята рашэнне аб затрыманні.

*— А як паводзіў сябе падпалкоўнік у час затрымання?*

— Чалавек, што называецца, апынуўся ў поўнай прастрацыі: ледзь мову не адняло, нешта незразумелае лепятаў накшталт таго, што, маўляў, я пасля, пасля раскажу, адкуль узялося ўсё гэта... Супраць Дзмітрыя Максіменкі была ўзбуджана крымінальная справа па артыкулу 90 (частка другая) КК Рэспублікі Беларусь за махлярства.

*— І ўсё ж паміж 111 доларамі, у незаконным атрыманні і прысваенні якіх ён абвінавачваецца, і тымі амаль 140 тысячамі іх, а таксама залатам, мільёнамі рублёў, знойдзеных у час вобыску, — розніца велізарная. Адкуль жа ўзялася ў службовым сейфе начальніка следчага аддзела РАУС такая процьма грошай, каштоўнасцяў і зброя?*

— Расследаваннем усіх падрабязнасцяў гэтай справы якраз і займаецца спецыяльная следчая група. Аб'ём работы — велізарны. Ёсць ужо пэўныя напрацоўкі. Але пра вынікі гаварыць рана, на гэта існуе тайна следства. Як толькі яно завершыцца, можна будзе больш падрабязна пазнаёміцца з усімі нюансамі гэтай даволі неардынарнай справы.

*— А якія яшчэ «гучныя» справы знаходзяцца на расследаванні ў следчым аддзеле Упраўлення па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю Пракуратуры Рэспублікі Беларусь?*

— На стадыі завяршэння справа адносна былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава. Ва ўсякім разе, да канца гэтага года яна будзе перададзена ў суд. Цікавай, са шматлікімі эпізодамі абяцае быць справа адносна дэпутата Нацыянальнага сходу Валерыя Кругавога, следства па якой таксама вядзецца. Што датычыцца справы былой старшыні праўлення Нацыянальнага банка Тамары Віннікавай, то і тут следства працягваецца. Аднак стан здароўя самой Тамары Дзмітрыеўны не дазваляе весці расследаванне такімі тэмпамі, якімі хацелася б. Там наогул велізарны аб'ём работы. Завершана следства па дзвюх бандыцкіх групоўках, якія дзейнічалі ў Гомельскай, Магілёўскай і Віцебскай абласцях. Расследуецца і шэраг іншых крымінальных спраў. Словам, расслабляцца злачынцы нам не даюць.

**Гутарыў Уладзімір ГОЙТАН.**

# АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ,
## ШТО ЎЗНІКАЮЦЬ У ПРАКТЫЦЫ ВЫЛІЧЭННЯ І ЎПЛАТЫ ЎСКОСНЫХ ПАДАТКАЎ

НАДЗЁННАЕ

*(Заканчэнне.*
*Пачатак у № за 16 верасня.)*

**Пытанне.** *Ці прадугледжана вызваленне ад падатку на дабаўленую вартасць пры аказанні экспедыцыйных паслуг па перавозках за межамі Рэспублікі Беларусь?*

**Адказ.** У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць» ад 16 мая 1996 года № 325-XIII транспартныя паслугі, рэалізуемыя за межы Рэспублікі Беларусь, падаткам на дабаўленую вартасць не абкладаюцца, калі:

— транспартныя паслугі аказаны за межамі Рэспублікі Беларусь:

— выручка за рэалізаваныя паслугі паступіла ў свабодна канверсоўнай валюце на рахункі прадпрыемстваў у банках Рэспублікі Беларусь.

Згодна з артыкулам 3 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах транспартнай дзейнасці» (уступіў у сілу з 01.07.1998 г.) транспартная дзейнасць — сукупнасць арганізацыйных і тэхналагічных аперацый па перамяшчэнню грузаў, пасажыраў і багажу рознымі відамі транспарту, а таксама транспартна-экспедыцыйная дзейнасць у іншыя, звязаныя з перавозкай, транспартныя работы і паслугі, выконваемыя на дагаворнай аснове ці іншых законных падставах.

У адпаведнасці з артыкулам 12 гэтага Закона транспартныя работы і паслугі выконваюцца на аснове дагавораў перавозкі, транспартнай экспедыцыі і іншых дагавораў, заключаемых суб'ектамі транспартнай дзейнасці.

Акрамя таго, у пісьме Міністэрства транспарту і камунікацый ад 31.07.1998 г. № 06-3-7/3071 указана, што ***з 1 ліпеня 1998 года*** (з моманту ўступлення ў сілу названага Закона) транспартна-экспедыцыйныя паслугі адносяцца да транспартных паслуг.

У сувязі з выкладзеным права на ўказаную льготу за аказанне транспартных паслуг прадпрыемства будзе мець пры наяўнасці адпаведных дагавораў з замежнай юрыдычнай асобай на ажыццяўленне перавозкі ці транспартнай экспедыцыі, а свабодна канверсоўная валюта павінна паступіць на рахунак прадпрыемства ў банку Рэспублікі Беларусь.

**Пытанне.** *Ці вызваляюцца ад падатку на дабаўленую вартасць будаўнічыя работы, рэалізуемыя за межы Рэспублікі Беларусь, пры атрыманні за іх выкананне вэксаля ў замежнай валюце?*

**Адказ.** У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць» (з улікам змяненняў і дапаўненняў) будаўнічыя работы, рэалізуемыя за межы Рэспублікі Беларусь, падаткам на дабаўленую вартасць не абкладаюцца, калі:

указаныя работы выконваюцца прадпрыемствамі на падставе адпаведнага дагавора з замежнай асобай;

выручка за рэалізаваныя работы паступіла ў свабодна канверсоўнай валюце на рахункі прадпрыемстваў у банках Рэспублікі Беларусь.

Акрамя таго, Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24.01.97 г. № 101 «Аб падтрымцы экспартнай дзейнасці прадпрыемстваў будаўнічага комплексу Рэспублікі Беларусь» прадугледжана вызваленне ад падатку на дабаўленую вартасць суб'ектаў гаспадарання, якія экспартуюць будаўнічыя работы на падставе адпаведнага кантракта (дагавора) з замежнай юрыдычнай ці фізічнай асобай, пры ўмове паступлення выручкі ад рэалізацыі ўказаных работ на рахункі прадпрыемстваў у банках рэспублікі ў свабодна канверсоўнай валюце, нацыянальнай валюце дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў, а таксама ў беларускіх рублях па кантрактах, заключаных у лік пагашэння запазычанасці за пастаўку прыроднага газу ў Рэспубліку Беларусь.

На думку Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь (пісьмо № 31-17/3306 ад 29.06.1998 г.), вэксаль можа быць выкарыстаны рэзідэнтам пры экспарце тавараў (работ, паслуг) як спосаб афармлення запазычанасці, але пры гэтым рэзідэнт абавязаны забяспечыць паступленне на свой рахунак адпаведных грашовых сродкаў. Атрыманне суб'ектам гаспадарання вэксаля, намінаванага ў замежнай валюце, не можа быць прыраўнавана да паступлення на яго рахунак выручкі ў замежнай валюце.

Зыходзячы з выкладзенага, а таксама ўлічваючы меркаванне Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, будаўніча-мантажныя работы, аплачаныя вэксалямі, вызваленню ад падатку на дабаўленую вартасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам па падаткаабкладанню не падлягаюць.

**Пытанне.** *Ці трэба разглядаць сумы падатку на дабаўленую вартасць, уплачаныя пры ўвозе прадуктаў перапрацоўкі раней вывезеных сыравіны і матэрыялаў, як авансавыя плацяжы па падатку на дабаўленую вартасць?*

**Адказ.** У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць» сумы падатку на дабаўленую вартасць, уплачаныя пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, улічваюцца пры вызначэнні плацельшчыкам сумы падатку на дабаўленую вартасць, якая падлягае ўплаце ў справаздачным перыядзе.

Сумы падатку на дабаўленую вартасць, уплачаныя таваравытворцамі пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь сыравіны, матэрыялаў, паўфабрыкатаў, камплектуючых вырабаў, паліўных рэсурсаў, разглядаюцца як авансавыя плацяжы і залічваюцца пры вызначэнні сум падатку на дабаўленую вартасць, што падлягаюць уплаце пры рэалізацыі прадукцыі і тавараў, выробленых з імпартаваных сыравіны, матэрыялаў, паўфабрыкатаў, камплектуючых вырабаў і паліўных рэсурсаў (арт. 3).

Такім чынам, указаны парадак распаўсюджваецца толькі на таваравытворцаў, якія ажыццяўляюць увоз сыравіны, матэрыялаў, паўфабрыкатаў, камплектуючых вырабаў, паліўных рэсурсаў для вырабу з іх прадукцыі і тавараў. Пры ажыццяўленні ўвозу сыравіны, матэрыялаў, паўфабрыкатаў, камплектуючых вырабаў, паліўных рэсурсаў, якія ў далейшым не выкарыстоўваюцца плацельшчыкам ПДВ пры ўвозе для вырабу з іх прадукцыі і тавараў, сумы падатку на дабаўленую вартасць, уплачаныя пры іх увозе, як авансавыя плацяжы не разглядаюцца, а ўлічваюцца ў саставе матэрыяльных затрат пры вызначэнні абкладаемай падаткам дабаўленай вартасці па рэалізаваных таварах.

**Пытанне.** *Якім чынам робіцца размеркаванне матэрыяльных затрат у банках пры наяўнасці стратных і даходных аперацый з дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі?*

**Адказ.** Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць», з 1 красавіка 1996 года ад падатку на дабаўленую вартасць вызваляюцца даходы, атрыманыя па аперацыях з дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі, акрамя даходаў ад іх рэалізацыі па цэнах, якія перавышаюць намінальны кошт, павялічаны на суму працэнтнай стаўкі, устаноўленую пры іх выпуску.

Пры наяўнасці абкладаемай і льгатуемай прадукцыі (работ, паслуг) і адсутнасці раздзельнага ўліку затрат матэрыяльныя затраты пры вызначэнні фактычнай дабаўленай вартасці размяркоўваюцца зыходзячы з удзельнай вагі гэтай прадукцыі (работ, паслуг) у атрыманай выручцы.

Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13.08.97 г. № 15 устаноўлена, што даходы ў выглядзе розніцы паміж цэнамі рэалізацыі (пагашэння) і цэнамі набыцця, атрыманыя па аперацыях з дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі, акрамя даходаў ад іх рэалізацыі па цэнах, якія перавышаюць намінальны кошт, павялічаны на суму працэнтнай стаўкі пры іх выпуску, не ўлічваюцца пры вылічэнні падатку на прыбытак і падатку на дабаўленую вартасць.

Згодна з Метадычнымі ўказаннямі «Аб парадку вылічэння падатку на дабаўленую вартасць» ад 21.05.96 г. № 12 (са змяненнямі і дапаўненнямі) з моманту апублікавання ўказанага Дэкрэта (15.08.97 г.) і на тэрмін яго дзеяння (да 1.01.98 г.), даходы, атрыманыя ад аперацый з указанымі каштоўнымі паперамі (у банках — клас 8), не ўключаюцца ў абкладаемы падаткам абарот (гр. 3 разліку) і размеркаванне матэрыяльных затрат не робіцца.

Такім чынам, з 1.04.96 г. па 14.08.97 г. і з 1.01.98 размеркаванне матэрыяльных затрат пры наяўнасці льгатуемых даходаў ад дзяржаўных каштоўных папер павінна рабіцца зыходзячы з удзельнай вагі, вызначанай у адпаведнасці з указаным Законам.

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падату на дабаўленую вартасць» пры рэалізацыі пакупных тавараў ніжэй за цану набыцця абкладаемы абарот вылічаецца зыходзячы з цаны іх набыцця.

Згодна з Метадычнымі ўказаннямі «Аб парадку вылічэння падатку на дабаўленую вартасць» ад 21.05.96 г. № 12 (са змяненнямі і дапаўненнямі), адмоўная розніца пры вызначэнні дабаўленай вартасці не ўлічваецца шляхам павелічэння абкладаемага падаткам абароту на суму гэтай розніцы. Пры наяўнасці ў справаздачным перыядзе даходных і стратных (рэалізацыя ніжэй за цэны набыцця) аперацый з дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі ў абкладаемы падаткам абарот не ўключаюцца даходы ад гэтых аперацый (у банках — клас 8) з адначасовым павелічэннем абкладаемага абароту на памер страты.

Такім чынам, пры адсутнасці размеркавання матэрыяльных затрат у перыяд дзеяння вышэйуказанага Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і наяўнасці стратных (рэалізацыя ніжэй за цэны набыцця) аперацый з дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі абкладаемы падаткам абарот павялічваецца на памер страты ад іх рэалізацыі.

Згодна з дапаўненнем да названых Метадычных указанняў (дадатак 2), унесеных у Рэестр Дзяржаўнай рэгістрацыі 8.04.98 г. № 2406/12) пры размеркаванні матэрыяльных затрат у банках страты (выдаткі) ад перапродажу каштоўных папер не ўлічваюцца, а адлюстроўваюцца ў сукупнасці з размеркаванымі матэрыяльнымі затратамі ў графе 5 разліку па падатку на дабаўленую вартасць па адпаведных радках у залежнасці ад аперацый з каштоўнымі паперамі: абкладаемых падаткам на дабаўленую вартасць ці вызваляемых ад яго.

Абкладаемы падаткам абарот (графа 3 разліку па падатку на дабаўленую вартасць) павялічваецца на суму страт (выдаткаў) ад перапродажу каштоўных папер па адпаведных радках у залежнасці ад аперацый па перапродажу якіх каштоўных папер атрыманы гэтыя страты (выдаткі). Па радку 1 «а» разліку па падатку на дабаўленую вартасць абкладаемы абарот павялічваецца на суму страт (выдаткаў) ад перапродажу каштоўных папер, аперацыі па перапродажы якіх падлягаюць абкладанню падаткам на дабаўленую вартасць, па радку 1 «в» — на суму страт выдаткаў) ад перапродажу каштоўных папер, аперацыі па перапродажы якіх вызваляюцца ад падатку на дабаўленую вартасць.

Такім чынам, у перыяды размеркавання матэрыяльных затрат і да ўнясення дапаўнення ў дадатак 2 да Метадычных указанняў (8.04.98 г.) страты ад рэалізацыі дзяржаўных каштоўных папер размяркоўваліся ў сукупнасці з матэрыяльнымі затратамі з павелічэннем абкладаемага падаткам абароту на памер страт па радку 1 «в» па льготнай стаўцы.

З 8.04.98 г. страты ад аперацый з дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі пры размеркаванні матэрыяльных затрат не ўдзельнічаюць, а адлюстроўваюцца ў сукупнасці з размеркаванымі матэрыяльнымі затратамі па радку 1 «в» з павелічэннем абкладаемага падаткам абароту па гэтым радку.

**Пытанне.** *Прадпрыемства ажыццяўляе работы па будаўніцтву і рамонту аб'ектаў жылога фонду. У адпаведнасці з пунктам 25 артыкула 5 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць» правядзенне гэтых работ вызваляецца ад падатку на дабаўленую вартасць. У ходзе праверкі прадпрыемства высветлілася, што ўказаныя работы ажыццяўляліся ім без наяўнасці ліцэнзіі. Ці правамернае прымяненне вышэйназванай ільготы па падатку на дабаўленую вартасць гэтым прадпрыемствам?*

**Адказ.** У адпаведнасці з пунктам 25 артыкула 5 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць» ад падатку на дабаўленую вартасць вызваляюцца работы па будаўніцтву і рамонту аб'ектаў жылога фонду.

Пры гэтым наяўнасць ліцэнзіі на ажыццяўленне будаўнічых і рамонтных работ у якасці ўмовы прадастаўлення гэтай ільготы ў вышэйназваным Законе не прадугледжана.

Адначасова паведамляем, што, згодна з артыкулам 9 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, спаганяемых у бюджэт Рэспублікі Беларусь», даходы, атрыманыя плацельшчыкам ад займання забароненымі відамі дзейнасці, а таксама ад дзейнасці, на занятак якой патрабуецца атрыманне спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі), ажыццяўляемай без такога дазволу (ліцэнзіі), і штраф у памеры атрыманага даходу ад гэтай дзейнасці падлягае ўнясенню ў бюджэт.

**У. ЖУК,**
**намеснік Старшыні Дзяржаўнага падатковага камітэта РБ.**

*РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ*

## «НАЗАВІЦЕ НУМАР ТЭЛЕФОНА!»

Мінуў ужо амаль месяц, як на старонках «Звязды» быў апублікаваны нарыс «Гаючыя рукі» — пра работу мануальнага тэрапеўта доктара Віктара Вакуліча, а ў газету паступаюць шматлікія пісьмы і тэлефонныя званкі з адзінай просьбай: «Назавіце нумар тэлефона гэтага цуда-доктара!» Людзі тэлефануюць часта, настойліва, просяць паведаміць, як можна звязацца з Віктарам Вакулічам.

Прызнацца шчыра, з падобнай чытацкай увагай да газетных публікацый даўно не даводзілася сутыкацца. Значыць, матэрыял закрануў за жывое сотні людзей.

Вось што піша жыхарка вёскі Жыровічы Слонімскага раёна Лідзія Васільеўна Гарох: «Я вельмі люблю вашу газету, чытаю яе з цікавасцю і выпісваю ўжо даўно. І вось у адным з нумароў прачытала артыкул «Гаючыя рукі». Там пісалася пра аднаго доктара. Хацелася б даведацца, як да яго трапіць на прыём? Толькі не ведаю нумар тэлефона...» Такія ж просьбы выказалі ў сваіх пісьмах у рэдакцыю Людміла Казляк з вёскі Шэйпічы Пружанскага раёна, Ванда Талуць з вёскі Завідзіненты Астравецкага раёна, Е. Стома з вёскі Белькаўшчына Стаўбцоўскага раёна і іншыя.

Рэспубліка вялікая, а доктар Вакуліч адзін. І тым не менш ён не адмаўляецца прыняць людзей. І калі зможа, то гатоў дапамагчы. Аднак магчымасці ў яго абмежаваныя, бо колькасць людзей, якія пакутуюць ад радыкуліту, скаліёзу, артрыту, іншых захворванняў пазваночніка, проста велізарная.

Шкада, што Міністэрства аховы здароўя ўсё яшчэ не ўзаконіла мануальную тэрапію. Ёсць і шэраг іншых праблем. Але гэта ўжо тэма іншай публікацыі. Рэдакцыя накіравала вышэйназваны артыкул на разгляд у Міністэрства аховы здароўя. Аднак адказу адтуль яшчэ не паступіла.

І ўсё ж, ідучы насустрач шматлікім просьбам чытачоў, паведамляем нумар тэлефона, па якім у Мінску можна звязацца з Віктарам Іванавічам Вакулічам: **239-93-53.**

**Уладзімір ГОЙТАН.**

## ДЗЯРЖАВЕ ЁСЦЬ СПРАВА ДА ХАРЧАВАННЯ ШКОЛЬНІКАЎ

**Міністэрствам адукацыі прымаецца шэраг мераў, якія вядуць да зніжэння кошту школьных абедаў.**

У прыватнасці, з мінулага года, згодна з рашэннем урада з мясцовых бюджэтаў выдзяляюцца сродкі з разліку 2 працэнты ад мінімальнай зарплаты ў месяц на аднаго вучня.

Вядома, што гэтая сума (на сённяшні дзень 5 тысяч рублёў) неістотна змяншае цану дзіцячага абеду. Таму на месцах шукаюць іншыя спосабы яе зніжэння.

Так, самазабеспячэнне некаторымі школамі сваіх патрэб у шэрагу прадуктаў (садавіне і агародніне) дазваляе ім адмовіцца ад паслуг устаноў грамадскага харчавання. У прыватнасці, так зрабілі школы Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці, сельскія школы Кобрынскага раёна і ўсе сярэднія навучальныя ўстановы Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. У мінулым годзе поўны комплексны абед з халоднымі закускамі, першым, другім і трэцім блюдамі бацькам вучняў Ляхавіцкага раёна абыходзіўся ў 5-6 тысяч рублёў. Зразумела, што таннеюць абеды не за кошт зніжэння якасці.

А вучні школ Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці ўвогуле харчуюцца бясплатна. Па рашэнню мясцовых уладаў арганізацыі раёна пералічваюць сродкі на харчаванне дзяцей.

Бясплатнае двухразовае харчаванне атрымліваюць выхаванцы ўстаноў адукацыі ў зонах, якія пацярпелі ад наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Міністэрства адукацыі сёння рыхтуе прапанову аб арганізацыі харчавання не толькі ў вучэбныя, як гэта адбываецца сёння, але і ў выхадныя і святочныя дні для ўчарашніх школьнікаў — сённяшніх навучэнцаў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ІДЗЕ ФАРМІРАВАННЕ ГРАНІЦ САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

Канцэпцыя пагранічнай палітыкі стала галоўнай тэмай абмеркавання на пасяджэнні калегіі Пагранічнага камітэта Саюза Беларусі і Расіі. Яно адбылося 15 верасня ў Маскве. У ходзе пасяджэння разглядаўся таксама «Праект фарміравання граніц Саюза».

Як паведаміў БЕЛТА старшы афіцэр прэс-цэнтра дзяржкамітэта пагранвойскаў краіны Аляксандр Ерашэнкаў, ёсць вялікая доля верагоднасці, што гэты дакумент будзе калегіяй зацверджаны. У пасяджэнні прынялі ўдзел старшыня Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў рэспублікі генерал-лейтэнант Аляксандр Паўлоўскі і члены калегіі гэтага ведамства.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

# ШАШКІ

## ЗАКАНЧЭННЕ З ПРОСТЫМІ

На дыяграме — пазіцыя, вельмі падобная на ненатуральную, быццам узятую не з гульні. Але яе карысна прааналізаваць аматарам шашак. Якога выніку могуць дасягнуць пры сваім першапачатковым ходзе белыя — выйгрышу або нічыёй, а можа яны абавязкова прайграюць?

Калі ласка, дасылайце свае адказы.




**Белыя**: b4, d4, f2, f4, h2 (5).
**Чорныя**: b6, d6, f6, h4, h6 (5).

## ЗВЕРЫМ РАШЭННІ?

Па традыцыі спачатку мы прыводзім аўтарскія рашэнні эцюдаў, якія даслала Алена Сабалеўская з г. п. Іўе Гродзенскай вобласці. Гэтыя эцюды былі змешчаны ў мінулым выпуску шашачнага аддзела.

**Эцюд № 1.** 1. ed2 g:e1 2. de3 e:d6 3. bc7 d:b6 4. a:g7 h:f8 5. h:d8x.

**Эцюд № 2.** 1. cb2 hg3 2. gd4 e:c3 3. b:h2 fg5 4. he5x. Пры ходзе чорных: 1. ... ed6 2. gh4 e:c3 3. b:b8x. Пры ходзе 1. ... ef4 2. b:g7 h:f6 3. a:h8 белыя таксама выйграюць.

Вось як ацэньваюць эцюды А. Сабалеўскай нашы чытачы. Мінчанін Л. Ахрэм, у прыватнасці, піша: «Эцюд № 1 упрыгожвае цікавая камбінацыя белых з пачатковай ахвярай чатырох шашак і наступным выйгрышам».

А вось М. Трухан з в. М. Пагост Салігорскага раёна лічыць, што ў эцюдзе ёсць дзве лішнія шашкі — белая c3 і чорная a7. Але з гэтым цяжка пагадзіцца, бо ў такім выніку губляецца, мусіць, натуральнасць рашэння.

У эцюдзе № 2 — тры асноўныя варыянты. У першым і другім чорныя пасля 3-га ходу белых трапляюць у цугцванг — абавязак зрабіць ход прыводзіць іх да пройгрышу. «Недахоп гэтага эцюда, — лічыць Л. Ахрэм, — што ў трэцім варыянце рашэнне запавольваецца і белым трэба дзейнічаць вельмі дакладна». Затое М. Трухан лічыць, што гэта «вельмі добры эцюд. Паболей бы такіх!». Дык на чыім баку справядлівасць?

На жаль, усе астатнія чытачы, якія даслалі адказы (а іх нямала), зноў абмежаваліся толькі тэхнічным бокам рашэнняў і не далі сваёй ацэнкі эцюдам А. Сабалеўскай.

Але... Нагадаем яшчэ раз, што такое тэрмін «эцюд» (мы, мусіць, год таму рабілі гэта) у інтэрпрэтацыі вядомага шашачнага маэстра В. Гарадзецкага: «Эцюд — гэта мастацкі шашачны твор з малой колькасцю шашак. У мацнейшага боку яна абмяжоўваецца чатырма адзінкамі. А заданне ў такім творы — выйгрыш або нічыя — выконваецца толькі адзіным шляхам. Колькасць кампазіцыйных варыянтаў павінна быць не менш двух».

Цяпер можна параўнаць эцюды А. Сабалеўскай з гэтымі патрабаваннямі і даць сапраўдную ацэнку ім.

Але ў падтрымку нашай жанчыны-складальніцы шашачных твораў, дададзім: кожны вядомы ў будучым аўтар славутых твораў — шахматных, шашачных, ды і паэтычных і празаічных таксама, пачынаў вось з такіх «спроб пяра».

Спадзяёмся, Алена Сабалеўская яшчэ блісне сваім майстэрствам не толькі на старонках нашай газеты, але і ў самых розных шашачных конкурсах.

В. Гарадзецкі дадае яшчэ некалькі творчых патрабаванняў да эцюдаў: «Фіналы ў эцюдах павінны быць чыстымі. У іх не павінна быць нічога лішняга. А замест такіх твораў узбагачаюць падманныя сляды, якія абвяргаюцца тонкімі хадамі. Пабочныя ж рашэнні ўвогуле знішчаюць шашачны твор».

***

Мы, у сваю чаргу, запрашаем пачынаючых шашачных кампазітараў дасылаць свае творы на агульную, калектыўную ацэнку нашых чытачоў — аматараў шашак. Мяркуем, што такім чынам мы дапаможам адзін аднаму ў складальніцкай дзейнасці.

# «ЭПІЗОД З «ДРАЗДАМІ» СЁННЯ НЕ ЎПЛЫВАЕ НА МАЮ ПРАЦУ ДЫПЛАМАТА»



***Іжо ПАЧЫЯТЭК, Генеральны консул Славакіі ў Беларусі, чалавек надзвычай цікавы, энергічны і з гумарам, лёгкі на пад'ём.***

***Ён амаль не прапускае ніводнай значнай прэс-канферэнцыі ў Мінску, дзе ёсць магчымасць пашырыць сваё веданне палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне.***

***Дарэчы, мы з ім пазнаёміліся на брыфінгу ў МЗС Беларусі, потым час ад часу сустракаліся на розных мерапрыемствах. І мне ў галаву не прыходзіла, што пану Пачыятэку ўжо 66 гадоў.***

**— Шаноўны Іжо, як жа вам удалося так захавацца?**

— Проста я спыніўся на 50-гадовым узросце. А калі сур'ёзна, дык сваю станоўчую ролю, відаць, адыграла тое, што я нарадзіўся ў гарах, у вясковай сям'і, дзе цудоўны клімат і выдатныя адносіны паміж блізкімі. Атрымаў даволі строгае выхаванне, за што і ўдзячны бацькам. Іх навука потым неаднаразова дапамагала і дапамагае зараз перададольваць шматлікія праблемы.

**— І з горнай вёскі адразу трапілі ў дыпламаты?**

— Не зусім адразу. Закончыў гімназію ў Браціславе, потым тры гады працаваў карэспандэнтам Чэхаславацкага тэлеграфнага агенцтва. Паступіў ва універсітэт у Празе і праз год вучобы быў накіраваны ў Маскоўскі інстытут міжнародных адносінаў, дзе я спецыялізаваўся па краінах Паўднёва-Азіяцкага рэгіёна, вывучаў малайскую і інданезійскую мовы. Потым не адзін год і неаднойчы працаваў у Інданезіі. Апошні раз у якасці пасла.

Пасля вядомых падзей 1968 года я добраахвотна пакінуў дыпламатыю, больш за 20 гадоў працаваў на тэлебачанні. «Бархатная» рэвалюцыя зноў адчыніла мне дзверы на дыпламатычную службу.

**— Дзякуючы якой вы нейкім чынам апынуліся ў зусім іншым рэгіёне свету — у постсавецкай Беларусі. Чым было выклікана ваша прызначэнне ў Мінск?**

— Пасля падзелу Чэхаславакіі на дзве краіны я працую ўжо як дыпламат Славакіі. Спачатку ў Маскве, затым з верасня 1995 года, Генеральным консулам у Мінску.

Між іншым, мне прапаноўвалі на выбар іншыя сталіцы рэспублік былога СССР. Але я без ваганняў спыніўся на Мінску. Некалі я праязджаў праз Беларусь, і яна мне вельмі спадабалася.

Паміж беларусамі і славакамі, на маю думку, шмат агульнага. У іх вельмі падобныя погляды на жыццёвыя пытанні, адносіны да прыроды, агульная адданасць зямлі, свайму асяроддзю. Яны — не касмапаліты, шануюць сваю радзіму, краіну. І гэта выклікае ў мяне вялікую павагу да беларускага народа, бо касмапаліты мне непрыемныя. Прызнаюся, даволі часта, калі я размаўляю з беларусамі, неяк не адчуваю розніцы, што я не ў Славакіі. Я ніколі не пашкадаваў аб сваім выбары.

**— Нават пасля непрыемнай гісторыі з «Драздамі»?**

**Для шэрагу кіраўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў іх знаходжанне ў Мінску можна ўмоўна падзяліць на «да» і «пасля» падзей вакол «Драздоў». Вы, наколькі мне вядома, моцна не пагаджаліся з прапановай нашых уладаў з'ехаць адтуль, нават у знак пратэсту на пэўны тэрмін пакідалі Беларусь, потым вярнуліся і цяпер, здаецца, зноў працуеце ў нармальным рэжыме. Для вас гэты канфлікт ужо вычарпаны, ці засталося пачуццё горычы і расчаравання?**

— Адкажу шчыра, мне няма чаго хаваць. Хаця ў дыпламатыі не прынята катэгарычна гаварыць «так» ці «не». Я прыехаў у вашу краіну з самымі лепшымі намерамі і настроем працаваць на карысць збліжэння і развіцця супрацоўніцтва паміж славянскімі дзяржавамі — Беларуссю і Славакіяй. І ў гэтым сэнсе гісторыя з «Драздамі» не ўнесла карэктыў у мае планы, не паўплывала на генеральную лінію нашага генконсульства.

«Драздры» — усяго толькі эпізод у адносінах Беларусі з іншымі краінамі. Эпізод, якога, зразумела, лепей было б, каб не было. Бо ён усё ж парушыў прынятыя ў свеце правілы адносінаў да дыпламатычных рэзідэнцый, да падпісаных раней кантрактаў. І на гэта нельга закрываць вочы.

Але з другога боку, мы, дыпламаты, не павінны трымаць «Дразды» як казус, які ўплывае на ход далейшага развіцця ўсяго комплексу стасункаў той ці іншай краіны з Беларуссю. З-за таго, што чыноўнікі сваімі непрадуманымі дзеяннямі з «Драздамі» нанеслі шкоду сваёй дзяржаве, мы не павінны дрэнна ставіцца да Беларусі.

Я нядаўна пераехаў у новую вялікую кватэру па вул. Чырвонаармейскай. Жылплошчай задаволены. Праўда, будаўнікі пакінулі шэраг дробных, але непрыемных недаробак. Напрыклад, у ваннай няма разеткі, што робіць праблематычным устаноўку пральнай машыны, не дазваляе галіцца электрабрытвай.

У цэлым я закрыў для сябе пытанне з маёй былой рэзідэнцыяй у «Драздах». Аднак непрыемны асадак ад гэтай гісторыі, прызнаюся, усё ж застаўся ў душы. Але, паўтаруся, ён сёння не ўплывае на маю працу дыпламата.

**— І, відавочна, эканамічныя стасункі з'яўляюцца прыярытэтам у дзейнасці консульства? Думаю, не адкрыю для вас сакрэту, калі скажу, што ўзровень эканамічнага супрацоўніцтва мог бы быць куды больш высокім. Для гэтага існуе мноства магчымасцяў. Але мы, я маю на ўвазе абодва бакі, чамусьці не выкарыстоўваем іх. Чаму?**

— Згодны. 70-мільённы гандлёвы абарот — гэта вельмі мала ў параўнанні з патэнцыялам нашых краін. Падобным чынам выказалася сумесная славацка-беларуская камісія па эканамічнаму супрацоўніцтву. І прычыны не ў тым, што нашы не хочуць яго развіваць. Наадварот. Не адзін дзесятак прадстаўнікоў дзелавых колаў Славакіі наведвалі вашу краіну, сустракаліся з верагоднымі партнёрамі. Але асаблівага плёну гэтыя паездкі, на жаль, не далі.

Адна з галоўных прычын — адсутнасць у Беларусі істотных рэзерваў цвёрдай валюты. Мы — дзяржава маладая. І хаця за апошнія гады мы эканамічна ўзняліся, але ў нас таксама няма свабодных капіталаў, якія можна было б пусціць на развіццё эканамічнага супрацоўніцтва з вашай краінай.

Можна было б выкарыстоўваць бартэр. Аднак тут шмат перашкод, напрыклад, шматлікія беларускія інструкцыі, якія часта мяняюцца і стрымліваюць бартэрныя аперацыі. Бюракратычныя бар'еры моцна замінаюць і ў іншых галінах. Мы вельмі зацікаўленыя ў рэалізацыі аднаго энергазберагальнага праекта. І хаця ў вас ёсць адпаведная ўрадавая праграма, наша справа, якая, на маю думку, выгадная для Беларусі, вельмі марудна рухаецца наперад. Праўда, ужо падпісаны кантракты, але каля сямі месяцаў пайшло на розныя ўдакладненні літаральна на кожным кроку.

Чаму б не зрабіць гэты працэс больш простым і зразумелым для вашых замежных партнёраў? Ад гэтага Беларусь толькі б выйграла. Маё перакананне: чым больш складанымі і заблытанымі з'яўляюцца правілы знешнеэканамічнага супрацоўніцтва, штучна ўзводзяцца розныя абмежаванні, тым больш на гэтым корміцца хабарнікаў і махляроў. Вядома, буйныя фірмы могуць дазволіць сабе падобныя расходы на дарагія прэзенты, але пераважная большасць славацкіх фірмаў сярэднія ці малыя. І яны абмежаваныя ў сродках.

Тым не менш, супрацоўніцтва спакваля развіваецца. Дзейнічаюць 11 сумесных прадпрыемстваў у розных галінах вытворчасці, ёсць пасрэдніцкія фірмы. Зараз мы рыхтуем 4-е пасяджэнне сумеснай камісіі, якое хутка адбудзецца ў Мінску. На парадак дня вынесена нямала важных пытанняў, вырашэнне якіх дазволіць актывізаваць эканамічныя стасункі.

**— А ці не замінае развіццю супрацоўніцтва, у тым ліку і эканамічнага, адсутнасць у Браціславе нашага пасольства ці генконсульства?**

— Мы адкрываем дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў тых краінах, з якімі хочам мець плённыя і на доўгую перспектыву адносіны. Беларусь у ліку гэтых краін. Тое, што яна не мае ў нас пасольства ці консульства, тлумачыцца фінансавымі праблемамі. Я ведаю, што ваш урад летась прыняў рашэнне аб адкрыцці пасольстваў у Браціславе, Будапешце. І гэта правільна, бо Славакія і Венгрыя блізкія да вас краіны. Але няхватка валютных сродкаў адыграла негатыўную ролю. Мы гэта разумеем. Я чуў, што Беларусь збіраецца адкрыць у Браціславе аддзяленне свайго пасольства ў Чэхіі, якое б засяродзілася на гандлёва-эканамічных пытаннях. Ідэя гэта слушная.

Што датычыць нашага генконсульства, то мы прадстаўляем Славакію ў поўным аб'ёме — у палітычнай, эканамічнай, гандлёвай і гуманітарнай галінах, а не абмяжоўваемся толькі чыста консульскімі справамі.

**— Іжо, шмат гадоў нашы людзі прывыклі мець справу і чуць пра Чэхаславакію. Многія і сёння па звычцы яшчэ называюць так ужо дзве суверэнныя краіны, не разумеюць прычын іх «разводу». Чаму гэта адбылося і як вам жывецца цяпер?**

— З гістарычнага пункту погляду славакаў можна зразумець. 1000 гадоў яны знаходзіліся пад уладай феадальнай Венгрыі. Славакія, у параўнанні з Чэхіяй, была самай адсталай часткай Аўстра-Венгерскай імперыі. Потым, пры сацыялізме, мая краіна зрабіла істотны прарыў у развіцці. З чэхамі былі ў прынцыпе нармальныя адносіны, яны нам шмат чым дапамаглі.

Праўда, пасля «бархатнай» рэвалюцыі паступова сталі ўзнікаць узаемныя прэтэнзіі, накшталт таго, хто і за чый кошт жыве, з'явіліся канцэптуальныя разыходжанні ў перспектывах развіцця. Прага імкнулася замкнуць на сабе ўсё кіраўніцтва эканомікай. У адказ наш урад у Браціславе гаварыў: «На сваёй тэрыторыі мы будзем кіраваць». На гэтай аснове з двух бакоў стварыліся групоўкі экстрэмістаў — так званыя «шавіністы» ў Чэхіі, а ў Славакіі — «нацыяналісты». Нарастала палітычнае і псіхалагічнае напружанне.

У рэшце рэшт, вырашылі разысціся, пакуль прэтэнзіі і абвінавачанні не перараслі ў больш сур'ёзныя рэчы. Я лічу гэта было правільным рашэннем своечасова сказаць адзін аднаму: кожны будзе жыць за свой кошт. Што тут дрэннага?

Мы невялікая, але еўрапейская краіна, і таму хочам быць ва ўсіх без выключэння еўрапейскіх структурах, у тым ліку і ў НАТО. Славакія актыўна развівае сувязі з краінамі іншых кантынентаў праз 60 сваіх пасольстваў, 7 пастаянных місій, 5 генконсульстваў, 7 славацкіх інстытутаў. Сярод 127 краін, з якімі мы падтрымліваем дыпламатычныя адносіны, Беларусь для нас з'яўляецца натуральным і бліжэйшым партнёрам, з якім, паўтаруся, у нас шмат агульнага.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*БЕЛАРУСЬ І СВЕТ*

# «ЗАЛАТАЯ СЯРЭДЗІНА» АЙЧЫННАГА БЕСПРАЦОЎЯ

**Самы высокі ўзровень беспрацоўя сярод краін СНД па выніках II паўгоддзя зарэгістраваны сёлета ў Арменіі — 131,3 тысячы чалавек, што складае 8,2 працэнта ад эканамічна актыўнага насельніцтва гэтай краіны. А самы нізкі — у Грузіі. Аднак гэта не з'яўляецца адлюстраваннем сапраўднай карціны, паколькі ў Тбілісі ўведзена новая сістэма ўліку беспрацоўных, згодна з якой у 1998 годзе рэгістрацыя была пачата, як кажуць, з нуля. Беларусь трапіла ў кампанію краін з адносна невысокім узроўнем беспрацоўя: у чэрвені было зарэгістравана 105 тысяч чалавек, ці 2,3 працэнта.**

Аналізуючы сітуацыю за апошнія сем гадоў, неабходна падкрэсліць, што літаральна ва ўсіх краінах СНД рост беспрацоўя быў вельмі імклівым у 1993 — 1996 гадах і дасягнуў піку два гады таму. У Азербайджане, Таджыкістане, Малдове, і ва Украіне ўладам да гэтага часу яго не ўдалося стрымаць, таму колькасць незанятых грамадзян там працягвае павялічвацца. Летась Казахстан і Кыргызстан здолелі замарудзіць тэмпы росту, але зараз крывая беспрацоўя зноў палезла ўверх. У той жа час Беларусь і Расія з 1996 года пачалі паслядоўна змяншаць колькасць беспрацоўных за кошт увядзення новых рабочых месцаў. Дарэчы, згодна з данымі Міждзяржаўнага статыстычнага камітэта СНД, усе краіны акрамя Узбекістана, сёлета павялічылі колькасць вакансій у параўнанні з мінулым годам.

Аднак трэба ўлічваць, што МСК СНД аперыруе толькі афіцыйнымі звесткамі. Адначасова не ўлічваецца ўзровень скрытага беспрацоўя, выкліканага вымушаным прастоем вытворчасцяў у краінах СНД. Такія выпадкі назіраюцца ва ўсіх суб'ектах, у тым ліку і ў Беларусі.

Менавіта па гэтай прычыне паказчыкі па беспрацоўю ў дзяржавах Садружнасці выглядаюць параўнальна меншымі ў адрозненне ад даных па іншых краінах, напрыклад, членах Еўрапейскага саюза. У ЕС самы высокі ўзровень адзначаны ў 1998 годзе ў Іспаніі, Фінляндыі, Італіі і Францыі — 19,7, 12,3, 12 і 11,9 працэнта адпаведна. Найменш беспрацоўных у Люксембургу, Аўстрыі і Нідэрландах — 3,9, 4,2 і 4,4 працэнта.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

**Узровень беспрацоўя ў краінах СНД у чэрвені 1997 і 1998 гг.**

***(у працэнтах ад эканамічна актыўнага насельніцтва)***




*Крыніца: МСК СНД.*

# МІНСКІЯ ШКОЛЬНІКІ БУДУЦЬ АТРЫМЛІВАЦЬ НЯМЕЦКІЯ ДЫПЛОМЫ

**Аб гэтым афіцыйна аб'явіў Часовы Паверанны ў справах Германіі ў Беларусі, пастаянны намеснік пасла ФРГ доктар Кольб у час наведвання мінскай гімназіі-каледжа № 24.**

Гэту навучальную ўстанову з паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы звязваюць даўнія кантакты з трыма школамі Германіі. З 1992 года ў школе № 24 Мінска працуюць кансультанты па нямецкай мове. Цяпер тут ужо тры гады гэта месца займае фрау Метцлер. Па яе словах, узровень выкладання нямецкай мовы ў школе пакідае прыемнае ўражанне.

У калектыву школы таксама склаліся добрыя адносіны з нямецкім пасольствам. Яго супрацоўнікі неаднойчы перадавалі сюды ў якасці дара падборкі нямецкай літаратуры. Вось цяпер яны зноў прывезлі кнігі — у асноўным падручнікі.

Але галоўнай навіной стала паведамленне аб тым, што менавіта выпускнікам гэтай гімназіі-каледжа, якія здадуць спецыяльны экзамен, будзе выдавацца дыплом II ступені, які сведчыць аб пэўным узроўні валодання нямецкай мовай. Ён дае права на паступленне ва універсітэты Германіі без экзамена па нямецкай мове.

**Леанід ТУГАРЫН.**

# МАЗ збіраецца ў В'етнам

**Паміж кіраўніцтвам Мінскага аўтамабільнага завода і В'етнамскай вугальнай карпарацыяй дасягнута дамоўленасць аб стварэнні зборачнай вытворчасці беларускіх грузавікоў у В'етнаме, паведаміў намеснік генеральнага дырэктара МАЗа па знешніх эканамічных сувязях Аляксандр ЯКАЎЛЕЎ.**

Прыняцце канчатковага рашэння будзе залежаць ад таго, як зарэкамендуюць сябе мінскія самазвалы на рабоце ў в'етнамскіх вугальных кар'ерах. Дзесяць «МАЗаў», што праектаваліся спецыяльна для замежных заказчыкаў, будуць пастаўлены па дамоўленасці ў В'етнам да 20 верасня. Назіранне за работай беларускіх «волатаў» будуць весці тэхнічныя спецыялісты айчыннага прадпрыемства.

У выніку паспяховага заканчэння выпрабавальнага тэрміну пачнецца дэталёвая размова паміж в'етнамскім і беларускім бакамі.

Сёння яшчэ рана гаварыць пра аб'ёмы вытворчасці на зборачным прадпрыемстве. Але мінскі завод гатовы арганізаваць выраб практычна ўсёй гамы сваёй тэхнікі. У першую чаргу в'етнамцаў цікавяць самазвалы і іншыя грузавыя аўтамабілі. « У В'етнаме ёсць неабходныя плошчы, абсталяванне і кваліфікаваныя кадры для арганізацыі зборкі «МАЗаў», — зазначыў Аляксандр Якаўлеў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# МУРМАНСК ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

**Губернатар Мурманскай вобласці Юрый Еўдакімаў звярнуўся да кіраўнікоў шэрагу паўночных правінцый Нарвегіі, Швецыі і Фінляндыі з просьбай аб аказанні рэгіёну гуманітарнай дапамогі.**

Аб гэтым гаворыцца ў заяве, якую распаўсюдзіла прэс-служба губернатара.

Як гаворыцца ў дакуменце, размова ідзе перш за ўсё пра пастаўкі харчавання ва ўстановы сацыяльнай сферы — дзіцячыя дамы, бальніцы, школы, дзіцячыя дашкольныя ўстановы.

Ю. Еўдакімаў адзначае, што быў вымушаны звярнуцца з падобнай просьбай да скандынаўскіх краін у сувязі з трывожнай сітуацыяй на харчовым рынку рэгіёна, а таксама з-за адмовы маскоўскіх і пецярбургскіх партнёраў у пастаўках харчавання мясцовым аптовым базам у ранейшым аб'ёме.

Цяпер, як паведамілі «ІФ» у прэс-службе адміністрацыі вобласці, у Мурманск ужо прыбылі прадстаўнікі «Чырвонага Крыжа» Фінляндыі для каардынацыі дзеянняў па аказанню гуманітарнай дапамогі рэгіёну.

Таксама паступіла інфармацыя ад гуманітарных арганізацый Тромсе і Фінмарка (Нарвегія) і Нарботэна (Швецыя) аб гатоўнасці павялічыць у бліжэйшы час пастаўкі харчовай гуманітарнай дапамогі ў Мурманскую вобласць.

Напярэдадні, адзначылі ў прэс-службе, пытанне аб харчовых пастаўках у рэгіён абмяркоўвалася на сустрэчы губернатара Ю. Еўдакімава з міністрам па справах Еўрапейскага саюза і знешнім гандлі Фінляндыі Уле Норбакам.

**Інтэрфакс.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Аказваецца, колер сцен уплывае на апетыт. Англійскі вучоны Б. Грэб раіць поўным людзям не толькі спорт і дыету, але і зялёны або цёмна-сіні колер шпалер у сталовай або на кухні. Апетыт у такіх сценах, як устаноўлена даследаваннямі, сапраўды змяншаецца.

**«Мегаполис-экспресс»**

*Палкоўнік арміі заходнеафрыканскай краіны Кот-д'Івуар Паскаль Сіба бязмерна верыў у магію. І калі вядзьмак з горада Абонса прапанаваў яму «магічны пояс», які выратоўвае ад любой кулі, ён вырашыў адразу ж выпрабаваць яго. Палкоўнік загадаў 20-гадоваму сыну ведзьмака пальнуць у яго з табельнай зброі, што той і зрабіў. На жаль, палкоўнік тут жа мёртвы ўпаў на зямлю.*

*Нявольны забойца знік. Вядзьмак арыштаваны. Дарэчы, палкоўнік быў вайсковым інжынерам-электроншчыкам.*

**ІТАР—ТАСС**

За адзін дзень раскрылі ў Мехіка 32 абрабаванні банкаў, учыненыя за апошнія паўгода. Усе налёты рабіў адзін чалавек — Аспе Марцінес, прычым на ўзбраенні ў яго быў... цацачны пісталет. Менавіта ім размахваў ён перад перапалоханымі касірамі 31 раз, і тыя выкладвалі грошы. На 32-гі здарылася асечка. Калі рабаўнік са здабычай знікаў з месца злачынства, на яго звярнуў увагу вулічны патруль. Вось тут і знайшлі «цацку».

**«Труд».**

# Смаляны. Шлях праз стагоддзі



У СЁ, што сёння ёсць, — ужо калісьці было, а тое, што некалі было, паўторыцца зноў.

Каля руінаў старажытнага замка бліз вёскі Смаляны пра гэты кругаварот звычайнага жыцця нагадвае дрэўца, прарослае між каменняў сцяны, павольная плынь нешырокай рэчкі, што з веку ў век рушыць да далёкага Дняпра, пыльная дарога ўдалечыні...

Хіба толькі белы след рэактыўнага самалёта ў блакіце выразна сведчыць пра час: канец XX стагоддзя.

У мінулым стагоддзі тут канчаткова разбурыўся велічны старажытны касцёл. У пазамінулым такі ж лёс напаткаў і не менш старажытны замак. Калісьці гэты замак з магутнай вежай у пяць павербаў, з абарончым ровам наўкруг быў адным з самых прыкметных на зямлі нашых продкаў.

А што было раней, пяцьсот гадоў таму, калі, як сведчаць пісьмовыя крыніцы, упершыню было згадана мясцовае паселішча?

Паглядзеў на стужку пыльнага гасцінца, заўважыў маладую пару, што з каляскай шыбавала да суседніх хат.

Вось што было тут і раней: жыццё было — самае галоўнае, дзеля чаго і вядзецца адлік часу на нашай зямлі.



Людзі кажуць, што недзе ў глыбіні, пад старажытнымі мурамі і пазарасталымі сцяжынамі, вядуць ад таямніцы да таямніцы шматкіламетровыя падземныя хады. Вясковых школьнікаў краязнаўцаў з гуртка «Спадчына» вабяць і гэтыя хады, і паданні ўрослай у зямлю разбуранай вежы, і паходжанне назваў навакольных вёсак, урочышчаў. Дарэчы, сама назва Смаляны, па іх меркаванню, з'явілася ад таго, што тут у далёкія часы людзі смалілі донцы лодак. А калі былі лодкі — значыцца плавалі мясцовыя насельнікі па рэчцы, магчыма, аж да таго ж Дняпра, або яшчэ далей.

Жыццё заўжды клікала людзей у дарогу. Можа таму і след рэактыўнага самалёта ў небе над старажытнай вёскай, і маладыя бацькі з немаўляткам на пыльным гасцінцы падаліся мне сённяшнім знакам бясконцай дарогі праз стагоддзі.

**Яўген ПЯСЕЦКІ. Фота аўтара.**

*Аршанскі раён.*

*Свіслацкая сярэдняя школа Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці*

***ЗАПРАШАЕ БЫЛЫХ ВЫПУСКНІКОЎ***

***на ўрачыстасці з нагоды святкавання 150-годдзя школы, якія адбудуцца 3 кастрычніка 1998 года.***

**Пачатак у 12 гадзін.**

**Адміністрацыя школы, аддзел адукацыі раёна.**

## «ЗАРАБІЛІ НА ЗАПАЛКІ»

**Прадпрымальных гамяльчан затрымалі супрацоўнікі патрульна-паставой службы аддзялення ўнутраных спраў на транспарце. Двое нідзе не працуючых жыхароў горада спрабавалі вывезці за межы рэспублікі запалкі.**

Каб падзарабіць, затрыманым прыйшлося добра такі пабегаць па дзяржаўных гандлёвых кропках Гомеля. Такім чынам яны назбіралі 14 скрынак запалак на суму 13,7 мільёна рублёў. Аднак рэалізаваць задуманае не ўдалося: груз канфіскаваны.

**Ігар ГРЫШЫН.**

*ПАРАДЫ СПЕЦЫЯЛІСТА*

# ЯК ВЫБРАЦЬ ПЛАДОВАЕ ДРЭВА?

**ХАРАКТАРЫСТЫКУ некаторых сартоў пладовых культур і парады аб тым, як і дзе лепш набыць саджанцы, дае загадчык аддзела селекцыі пладовых культур Беларускага навукова-даследчага інстытута пладаводства, кандыдат сельскагаспадарчых навук Зоя КАЗЛОЎСКАЯ.**

**— Зоя Аркадзьеўна, садавод-аматар, прыйшоўшы на рынак ці туды, дзе прадаюцца саджанцы, губляецца ў гэтым моры тавару. Не кожны прадавец можа ахарактарызаваць тое, што ён прадае. Раскажыце, калі ласка, пра найбольш папулярныя сарты пладовых дрэў, якія раяніраваны ў нас у Беларусі і якія вы раіце набываць для дачных і прысядзібных участкаў.**

— Перш чым садзіць свой сад, пажадана атрымаць кансультацыю спецыяліста. Ёсць спецыяльна выдадзены Дзяржаўны рэестр сартоў дрэўных і кустарнікавых парод, найбольш прыстасаваных да нашых умоў. Там інфармацыя па яблыні, грушы, сліве, гібрыднай сліве ці буйнаплоднай алычы, маліне, суніцы і г. д.

Па яблыні мы рэкамендуем як ранейшыя, даўно раяніраваныя сарты, такія як «папіраўка» ці «белы наліў», так і новыя перспектыўныя сарты беларускай, расійскай і заходняй селекцый, якія прайшлі сортавыпрабаванні для нашай зоны. Сярод летніх сартоў вялікае распаўсюджванне атрымаў новы перспектыўны сорт «каваленкаўская». Плады салодкія, смачныя, афарбаваныя. Хачу адзначыць таксама перспектыўны летні сорт «мара». Для дачнікаў ён зручны тым, што яблыкі не сыплюцца як, напрыклад, з «папіраўкі», не пераспяваюць на дрэве. Першыя плады пачынаюць выспяваць як на той жа «папіраўцы» і трымаюцца да верасня. Яблыкі буйныя, сакавітыя, духмяныя. Сорт ураджайны, устойлівы да грыбковых хвароб, але што да імунных — сказаць нельга. Па многіх смакавых якасцях можна адзначыць сорт «суслепскае», асабліва для паўночных раёнаў, але з-за таго, што дрэва мае вялікую сілу росту, ён карыстаецца меншай папулярнасцю.

З асенніх сартоў можна выдзеліць сорт «слава пераможцам». Яблыкі смачныя, прывабныя, але хачу адразу сказаць, што дрэвы вельмі падвергнуты грыбковым хваробам, у тым ліку і ракавым. «Штрэйфлінг» паранейшаму ў нас застаецца ў асартыменце, яблыкі і смачныя, і прыгожыя, але зноў жа з-за вялікай сілы росту яно на аматара. Цікавы даўно вядомы беларускі сорт «мінскае». Для большасці раёнаў, асабліва Цэнтральнай Беларусі і паўднёвай часткі, ён лічыцца як асенні, а для больш паўночных раёнаў — як ранні зімні. Яблыкі захоўваюцца да новага года.

З зімніх сартоў, плады якіх доўга захоўваюцца, можна выдзеліць эстонскі сорт «тэлісаарэ». Ён падобны на «бананавае», ад якога апошнім часам пачалі адмаўляцца, таму што позна пачынае пладаносіць. А захоўваюцца яблыкі даўжэй, чым якога-небудзь іншага сорту.

Яшчэ хачу сказаць аб новых сартах, якія не паражаюцца паршой і выклікаюць сімпатыі ў дачнікаў. Гэта сарты расійскай селекцыі «імрус», «чыстацел», «болатаўскае», амерыканскай — «фрыдам», «джонафры». Заслугоўваюць увагі новыя сарты селекцыі Беларускага навукова-даследчага інстытута «Алеся», «вербнае», «заслаўскае», «чараўніца», «памяці Сюбаравай».

Што датычыць грушы, дык самая лёжкая — «беларуская позняя». У нашай калекцыі больш сартоў летне-асенніх: «бэра залатая», «мліеўская ранняя», «масляністая летняя». Гэтыя сарты характэрныя для паўднёва-заходніх раёнаў Беларусі. Цікавы расійскі сорт «чыжоўская», раяніраваны па Віцебскай вобласці. Можна парэкамендаваць добры сорт расійскай селекцыі «памяці Якаўлева». Адным з найбольш стабільных сартоў лічыцца ў нас «прыгожая Яфімава». Цяпер пайшло новае пакаленне селекцыйных гібрыдаў, якія вызначаюцца скараплоднасцю і ўраджайнасцю ў раннім узросце. Да іх адносяцца сарты беларускай селекцыі «духмяная», «забава».

Сярод сартоў сліў найбольшай стабільнасцю выдзяляюцца нашы беларускія сарты «Нарач», «кромань». У свой час у Беларусь былі завезены паўднёвыя сарты «маўнт раял» і «фаварыта дэль султана». Трэба сказаць, што сліва — гэта ўвогуле далікатная культура. Яна з цяжкасцю пераносіць рэзкія перапады тэмператур. У выніку ўмоў надвор'я апошніх зім загінулі многія дрэвы, а вось гэтыя два сарты вытрымалі і нават не змянілі сваіх якасцяў. Значыць, яны дастойныя ўвагі. Карыстаюцца папулярнасцю ў садаводаў-аматараў жаўтаплодныя слівы: «беларуская», «стаханаўка», «ранняя лошыцкая».

З алычы мы прапануем такія скараплодныя сарты, як «найдзёна», «камета кубанская», новыя сарты «віцьба», «асалода», «мара» (чыста жоўтая). У дзяржсортавыпрабаванне перадаём цікавы беларускі сорт «лама» з цёмнай афарбоўкай не толькі паверхні, але і мякаці.

Як паказала практыка, па вішні няма сартоў абсалютна ўстойлівых да ўсіх хвароб. Найбольш адаптыўнымі застаюцца сарты «навадворская», «сеянец № 1», устойлівы да какамікозу сорт «норд стар» і зусім няўстойлівы да маналіёзу. Адноснай устойлівасцю да хвароб валодаюць сарты «вянок», «памяці Вавілава», «тургенеўка», новы беларускі сорт «заранка».

З чарэшні найбольш марозаўстойлівымі з'яўляюцца такія сарты, як «сюбараўская», «гронкавая», новы сорт «гасцінец» з добрай якасцю пладоў, а таксама даўні і выпрабаваны часам сорт «паўночная». А для паўднёвай зоны найбольш прыдатным застаецца сорт «народная».

**— Зоя Аркадзьеўна, што трэба ведаць пры набыцці саджанцаў, на што звяртаць увагу?**

— Абавязкова трэба глядзець, каб не падсохла карэнне. Калі каранёвая сістэма перасушана, то дрэўцы даўжэй прыжываюцца, яны больш падвергнуты розным захворванням. Калі ідзяце купляць саджанцы, прыхапіце з сабой поліэтыленавы пакет і вільготную мешкавіну. Пры выбары трэба глядзець на развіццё самога саджанца. Звычайна ў нас прадаюцца стандартныя аднагодкі. Калі дрэўца выгадавана па ўсіх правілах, выкапана з захаваннем каранёвой сістэмы, то на наступны год яно зацвітае і дае плады.

**— Ці можна неяк засцерагчы сябе ад такіх выпадкаў, калі, скажам, куплялі сліву, а на дрэве вырасла дзікая алыча?**

— Неспецыялісту цяжка. У гэтым выпадку значэнне мае тое, дзе набываеце пасадачны матэрыял. Найлепш гэта рабіць у дзяржаўных установах ці ў людзей, якія працуюць з гэтымі культурамі і гадуюць саджанцы на сваіх прысядзібных участках для продажу. Вельмі часта на рынках прадаюць саджанцы з машыны і гавораць, што яны прывезены з інстытута пладаводства. Але гэта не так. Інстытут практычна не вывозіць на рынкі саджанцы, таму што мы іх аддаём у асноўным на матачнікі ў гадавальнікі рэспублікі альбо на закладку садоў у гаспадарках. Для садаводаў-аматараў інстытут пладаводства прадае саджанцы ў Самахвалавічах. Калі ж будзем вывозіць на продаж на рынак, то з абавязковай папярэдняй рэкламай на радыё, тэлебачанні, у газетах.

**— Ці мае значэнне, у якую пару (вясной ці ўвосень) пасаджана пладовае дрэва?**

— Так, мае. Лепш за ўсё сад садзіць вясной. І для лепшага прыжывання, і для большай устойлівасці да ўсіх неспрыяльных фактараў, уключаючы грыбковыя хваробы. Набываць саджанцы трэба ўвосень, захоўваць можна ў падвалах, засыпаўшы вільготным пілавіннем ці рыхлым вільготным торфам, альбо прыкапаць на агародзе, а ранняй вясной дрэўцы высадзіць.

**Валянціна ШПІЛЕЎСКАЯ.**

*УСЁ ПРА ЎСЁ*

**ЯПОНІЯ ШУКАЕ ПРЫРОДНЫЯ БАГАЦЦІ НА МЕСЯЦЫ**

У нетрах Месяца, лічаць вучоныя, хаваецца ключ да росквіту ў XXI стагоддзі. Асабліва пільна прыглядаюцца да Месяца ў касмічных цэнтрах Азіі. Японія, напрыклад, плануе праз 50 гадоў пабудаваць на Месяцы пастаянна дзеючую станцыю для забеспячэння доступу да месяцавай энергіі. Вучоныя выказваюць меркаванні, што месяцавыя нетры багатыя карысным ізатопам гелію. Калі наладзіць яго здабычу і дастаўку на Зямлю, ён можа стаць незаменнай энергетычнай сыравінай. Перапрацаваны ў ядзерным рэактары, гэты ізатоп дае вялікую колькасць экалагічна чыстай энергіі.

**ІНФАРКТ — ДЫЯГНАЗ ЧАЛАВЕКА ЛЕДНІКОВАГА ПЕРЫЯДУ**

Такі здзіўляючы дыягназ паставіў аўстрыйскі доктар Уільям Мэрфі. Ён лічыць, што калісьці наш прашчур у Альпах ужо ў 35-гадовым узросце мог памерці ад разрыву сэрца ці закупоркі крывяносных сасудаў. Свае вывады спецыяліст грунтуе на рэнтгенаўскіх здымках, атрыманых у выніку прасвечвання цела старажытнага продка, якое знаходзіцца ў халадзільнай камеры Інсбрукскага універсітэта. Урачоў здзівіў перш за ўсё надзвычай дрэнны стан яго сардэчна-сасудзістай сістэмы. Атрымліваецца, наш далёкі прашчур мала чым адрозніваўся ад нас саміх, пакутуючых у першую чаргу менавіта ад гэтага захворвання.

Па даручэнню Сусветнай арганізацыі аховы здароўя вучоныя 29 краін даследавалі небяспечныя захворванні, якія пагражаюць чалавечаму сэрцу. У рамках праграмы разгледжана 75 тысяч выпадкаў інфаркту, якія перанеслі людзі ва ўзросце ад 35 да 64 гадоў. Як сведчаць назіранні, парушэнні сардэчнай дзейнасці адбываюцца ў мужчын у сярэднім у 4 разы часцей, чым у жанчын. На 40 працэнтаў зніжае пагрозу захворвання той, хто на працягу шэрагу гадоў ужывае па 100 міліграмаў вітаміну Е ў дзень. На думку амерыканскіх урачоў, вітамін не дае ўтварацца на сценках сасудаў вапне і садзейнічае паляпшэнню кровазвароту.

**БЕРЛІН ЯК ХОБІ**

У нямецкага фатографа, жыхара Берліна Хары Хампеля незвычайнае хобі. Ён вырашыў пабываць ва ўсіх Берлінах, што існуюць на планеце, а такіх геаграфічных пунктаў ён налічыў 118. Усюды ён робіць здымкі, сабраў іх больш як 15 тысяч. У самой Германіі акрамя ўсім вядомага вялікага горада ёсць пасёлак Берлін паміж Гамбургам і Любекам. У ЗША налічваецца 26 Берлінаў, заснаваных у розны час перасяленцамі з Германіі, дзе фатограф пабываў. Быў ён і ў самым высакагорным Берліне — на тэрыторыі Аргенціны, на вышыні 4500 метраў над узроўнем мора. На Украіне і Урале таксама ёсць свае Берліны. Зараз фатограф рыхтуецца да ўзыходжання на вулкан Берлін вышынёй 3495 метраў, які знаходзіцца ў заходняй частцы Антарктыды.

**НЕ ВАРТА ПІЖОНІЦЬ**

У Японіі праведзена вывучэнне 129 дарожна-транспартных здарэнняў, звязаных з выкарыстаннем вадзіцелямі мабільных тэлефонаў. Размовы на хаду адцягваюць увагу чалавека за рулём. Выявілася, што ў 42 працэнтах выпадкаў сутыкненне ці іншы інцыдэнт адбыліся, калі вадзіцель браў трубку, збіраючыся патэлефанаваць або адказаць на выклік, 31 працэнт — калі набіраў нумар, 16 працэнтаў — у час размовы.

У некаторых краінах вадзіцелям забаронена размаўляць па тэлефоне на хаду.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

**Паважаная Галіна Аркадзьеўна РАКАЧ!**

Звяздоўцы шчыра радуюцца Вашаму юбілею і настойліва жадаюць бачыць Вашу светлую ўсмешку— нават у самых крытычных момантах нашай супольнай працы — яшчэ не адно дзесяцігоддзе.

Шчасця Вам!

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Агульны тыраж 92.132.
Індэкс 63850.
Зак. № 5524.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12